# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 40 (3360) Год LXV | Беласток, 4 кастрычніка 2020 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)




Дом і ежа па-жыдоўску →3



Яўген Хлябцэвіч →5

# Фестываль
## «Гайнаўскія дні царкоўнай музыкі» ў саборы і інтэрнэце

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

**XXXIX Міжнародны фестываль «Гайнаўскія дні царкоўнай музыкі»**, які ў асноўным праходзіў з 14 па 19 верасня ў Свята-Троіцкім саборы ў Гайнаўцы, розніўся ад папярэдніх выпускаў па прычыне эпідэміі каранавіруса. Спачатку фестываль быў перанесены з мая на верасень, але і ў пазнейшым тэрміне замежныя хары не прыехалі ў Гайнаўку, а іх конкурсныя выступленні можна было пaглядзець па інтэрнэце. Выканаўцы з Польшчы выступалі ў час конкурсных слуханняў два дні. Колькасць гасцей і публікі ў Свята-Троіцкім саборы ў Гайнаўцы была абмежавана ў адпаведнасці з санітарным рэжымам. Мітрапаліт Варшаўскі і ўсяе Польшчы Сава даслаў пасланне да арганізатараў і ўдзельнікаў «Гайнаўскіх дзён царкоўнай музыкі». Журы, якое сёлета ацэньвала дзесяць айчынных хароў і восем замежных — з Беларусі, Літвы, Латвіі і Украіны — звярнула ўвагу на высокі ўзровень выканаўцаў.

Малітвы ў саборы ў дзень інаўгурацыі фестывалю ўзначаліў архіепіскап Бельскі Грыгорый. У ліку гасцей былі епіскап Сямятыцкі Варсанофій, праваслаўнае і каталіцкае духавенства, міністр нацыянальнай адукацыі Дарыюш Пянткоўскі, прадстаўнікі ўрадавай адміністрацыі, парламентарыі, самаўрадаўцы, прадстаўнікі мундзірных службаў і дырэктары шматлікіх устаноў. З інаўгурацыйным канцэртам выступіў кафедральны хор Свята-Троіцкага сабора ў Гайнаўцы пад кіраўніцтвам іерэя Паўла Коршака. Пазней анлайн з Сафійскага сабора ў Кіеве выступіў мінулагодні лаўрэат узнагароды Гран-пры хор Кіеўскай духоўнай акадэміі пад кіраўніцтвам архімандрыта Рамана (Падлубняка). Мітрапаліт Сава ў пасланні да ўдзельнікаў фестывалю, якое зачытаў архіепіскап Грыгорый, звярнуў увагу на асабліва вялікае значэнне «Гайнаўскіх дзён царкоўнай музыкі» ў сённяшні час і выявіў шкадаванне, што не можа асабіста прымаць у іх удзелу.

— Трыццаць дзявяты раз Гасподзь абдароўвае Гайнаўку і любіцеляў царкоўнай музыкі сваёй ласкай. Ці ж гэта не вялікі дар? — напісаў у пачатку паслання мітрапаліт Сава пра восеньскі выпуск фестывалю «Гайнаўскія дні царкоўнай музыкі» ва ўмовах эпідэміі каранавіруса. Мітрапаліт адзначыў, што фестываль не можа замоўкнуць і прапанаваў вернікам заахвочваць да ўдзелу ў «Гайнаўскіх днях царкоўнай музыкі» іншых асоб.

Бургамістр Гайнаўкі Ежы Сірак, афіцыйна адкрываючы мерапрыемства, звярнуў увагу, што гайнаўскі фестываль з'яўляецца асаблівым духовым і культурным здарэннем у маштабе Падляшша, Польшчы і Еўропы. Абавязкі непрысутнага дырэктара фестывалю, настаяцеля Свята-Троіцкага прыхода ў Гайнаўцы мітрафорнага протаіерэя Міхаіла Негярэвіча выконваў вікарны святар гэтай парафіі протаіерэй Марк Юрчук.

— Тут такая прыгожасць царкоўнай музыкі і як у такім выпадку сядзець дома. Нам асабліва цікавыя выступы нашых хароў з сабора, якіх спеў чуем на багаслужбах, — заявіла жыхарка прыпушчанскага горада.

Харысты Дзіцяча-маладзёжнага хору Свята-Троіцкага сабора ў Гайнаўцы, які ўжо раней дабіваўся поспехаў на фестывалі, занялі другое месца ў катэгорыі дзіцяча-маладзёжных выканаўцаў.

— Праз спеў мы набліжаемся да Бога і мы рады, што належым да нашага хору, у якім добрая атмасфера, — гаварылі маладыя харысткі са Свята-Троіцкага сабора ў Гайнаўцы.

— Для нас вылучэнне выступаць на міжнародным фестывалі. Людзі даведаюцца, што ёсць такі праваслаўны прыход у Рогаўцы, які не так даўно паўстаў, — заявіла ўдзельніца хору ў Рогаўцы, які разам з хорам з Орлі заняў другое месца ў катэгорыі вясковых прыхадскіх хароў.

— Мы многа разоў раней тут выступалі. Сёлета таксама падрыхтавалі рэпертуар з багаслужбаў, — сказала харыстка з Міхайлаўскага прыхода ў Орлі.

— Ёсць тут магчымасць паслухаць спеў у выкананні розных хароў і павучыцца ў іх, — заявіла адна з вясковых харыстак.

— Мы спяваем з малітвай. Рыхтуючыся да фестывалю, павышаем узровень нашага спеву, — сказалі харысткі Прачысценскага прыхода ў Бельску.



Дзіцяча-маладзёжны хор Свята-Троіцкага сабора ў Гайнаўцы



Хор Прачысценскага прыхода ў Бельску-Падляшскім

— На фестывалі мы выступалі раней. Цяпер чарговы раз запрэзентуем новападрыхтаваны рэпертуар. У нашым хоры спяваюць аматары царкоўнага спеву, няма ў нас асоб з прафесійнай падрыхтоўкай. Я стараюся навучыць нашых харыстаў спяваць роўна, каб індывідуальныя здольнасці падпарадкоўвалі калектыўнаму спеву, — заявіла дырыжор хору Прачысценскага прыхода ў Бельску-Падляшскім Марта Зінкевіч, якой хор заняў другое месца ў катэгорыі гарадскіх прыхадскіх хароў.

Пераможцамі ў гэтай катэгорыі сталі хор Ільінскага прыхода ў Беластоку і хор Мікалаеўскага прыхода ў Ірпені ва Украіне, а трэцяе месца заняў хор Петра-Паўлаўскага прыхода ў Сямятычах. У катэгорыі іншых хароў першае месца заняў хор духавенства Варшаўска-Бельскай епархіі, а сярод акадэмічных хароў лаўрэатам першага месца стаў камерны хор «Благавест» з Рыгі (Латвія). Журы фестывалю, якога працу ўзначальваў прафесар Уладзімір Валасюк, звярнула ўвагу на высокі мастацкі ўзровень выступленняў конкурсных выканаўцаў, але не прызначыла ўзнагароды Гран-пры. Найбольш замежных хароў выступіла з Рэспублікі Беларусь, якія займальна запрэзентаваліся анлайн у час фестывальных слуханняў і занялі прызавыя месцы. Першае месца ў катэгорыі вясковых пры-

чытайце ☞ 5



# Вольны дух

Гародня ўсё адно застаецца вольным горадам!

Нягледзячы на тое, што людзей у чорным з дубінамі ў руках і з балаклавамі на галовах у ім часамі бегае больш чым іншых, нягледзячы на масавыя выклікі грамадзян Гародні ў міліцыю, пракуратуру, следчы камітэт і іншыя сілавыя ведамствы, нягледзячы на канвеер судоў і прысудаў, безліч затрыманняў, арыштаў, заведзеных справаў, запушчаных у хаду працэсаў, Гародня ўсё адно застаецца вольным горадам па духу свайму.

Зрэшты, як і ўся краіна з прыгожай назвай Беларусь.

Зараз выклікі ў міліцыю, хіба што, у гэтай краіне не атрымліваюць толькі самі міліцыянты, ну і іншыя сілавікі ды прадстаўнікі ўлады. Хоць апошнія не так упэўненыя, што іх абміне гэты лёс. І не абміне, хіба што, нікога. Яно так заўсёды. У гэтай чорнай справе галоўнае пачаць. А там і да тых, хто пачаў, чарга абавязкова даходзіць. У гісторыі так безліч разоў паўтаралася. Закон жанру. Ну то чаму зараз мусіць быць па-іншаму?!

Ну а колькасць асуджаных па артыкуле 23.34 Адміністрацыйнага кодэкса Рэспублікі Беларусь у цяперашні дадзены канкрэтны адрэзак часу хіба што можа прэтэндаваць на ўваход у кнігу рэкордаў Гінеса. Такая яна вялікая, тая колькасць асуджаных за ўдзел у несанкцыянаваных мерапрыемствах, што, напэўна, у перспектыве імкнецца перавысіць колькасць насельніцтва Рэспублікі Беларусь у некалькі разоў. І спыняцца на дасягнутым не плануе.

А несанкцыянаваным мерапрыемствам зараз называецца ўсё што заўгодна. Ішоў на мітынгу з бела-чырвона-белым сцягам, гэта дакладна несанкцыянаванае мерапрыемства. Ішоў без сцяга, таксама дакладна. Стаяў недалёка, сядзеў далёка, глядзеў убок, усё гэта не мае значэння. Нават калі чалавек проста ў краму выйшаў і папаўся сілавікам, якія зацягнулі яго ў суд, няма аніякіх сумневаў, што асудзяць за ўдзел у масавым мерапрыемстве.

Ну і правільна. Хай судзяць. Ёсць за што. Няма чаго хадзіць па крамах, калі ўся краіна ідзе на мітынг.

Ну а там, на несанкцыянаваным мерапрыемстве, можна і дубінай у плечы дастаць, а можна і чаго добрага здабыць. Па-рознаму здараецца. Вось у мінулую нядзелю стаў я сведкам размовы двух чалавек. Як аказалася, некалькі гадоў запар яны былі лютымі ворагамі. Не размаўлялі адзін з другім, і жонкі іх не размаўлялі між сабой, і нават дзеці. Нечага даўно яны не падзялілі, ужо і самі не памятаюць чаго, толькі злосць і крыўда заставаліся. А тут, сустрэўшыся на несанкцыянаваным мітынгу, пад бела-чырвона-белымі сцягамі, паглядзелі адзін другому ў вочы да і выгукнулі ў адзін голас:

— І што мы не падзялілі з табой, зямляк?! Ды хай яно гарыць гарам і прападае пропадам! Давай мірыцца! Мы ж землякі! Мы зараз тут разам за праўду стаім! Краіну сваю адстойваем! Дзеля дзетак сваіх, і тваіх і маіх. Давай абдымаемся. І жонкі хай абдымуцца. І дзеці. Мы ж адзін народ!

Я ажно слязу пусціў. Ніколі не думаў, што ўбачу такое. Ды яшчэ на несанкцыянаваным мітынгу. Прапала ў іх нянавісць адзін да другога, як карова языком яе злізала і півам запіла. Любоў на тым месцы ўзышла і цеплыня душэўная. Любіць адзін другога сталі. А нянавісць пакінулі для зла.

А вось як люта нашы людзі сталі ненавідзець тое зло, у гэтым пераканаўся я з наступнай сустрэчы.

— Даўно мы не выпівалі з табой, — кажа адзін беларус другому. — Можа махнём па чарцы сёння, калі ўсё добра тут закончыцца, і не забяруць нас у аўтазак?

— Не, — цвёрда адказвае другі. — Я зарокся, пакуль мы гэтае зло не пераможам, кроплі ў рот не вазьму! Да канца зарок датрымаю.

А вось такога я не тое што не чуў ніколі, але і не чакаў пачуць! Гэта ж як трэба ненавідзець тое зло, каб адважыцца на такі зарок! Гэта, я вам скажу, ужо не жарты! Тут усё па-даросламу.

Ну, жарты жартамі, а калі папраўдзе гаварыць, то на душы даволі трывожна. Ну а як можа быць па-іншаму на душы, калі робіцца такое зверства ў дачыненні да людзей. Ды яшчэ палохаюць, што зробяць яшчэ большае зверства. Ва ўсіх на душы трывожна. Але людзі ўсё адно ідуць на тое несанкцыянаванае мерапрыемства. Перамагаюць страх, трывогу, непакой і ідуць. Ідуць як на свята. Ведаюць, што гэты паход можа нядобра для іх закончыцца, а ўсё адно як на свята ідуць. Танцуюць, граюць, спяваюць, робяць перформансы, чытаюць вершы... Ідуць ахвяраваць сабой дзеля праўды. І ахвяруюць. Ідуць за перамогай. Ды яшчэ як трапна жартуюць па дарозе! Проста здзіўляешся народнаму гумару. Хіба што ні ў каго няма такога.

Ідзе чалавек з плакатам „Міліцыя з народам". Ну тут як бы ўсё зразумела чаго ён хоча. Гэты плакат то даволі сур'ёзны. А вось след за ім другі ідзе з плакатам „І алкаголікі з народам". Але і гэта не ўсё. Знайшоўся і яшчэ трэці, які недзе адкапаў і павялічыў фота старшыні Цэнтральнай выбарчай камісіі з вельмі патрапанай прычоскай і падпісаў „Цырульнікі таксама з народам". А ўслед за ім сунецца нейкі хлопчык па імені Макс з плакатам „Усіх Максаў не перасадзіш"... А яшчэ адзін з вельмі сур'ёзным тварам, зусім без ценю ўсмешкі на абліччы, проста нясе ката...

І ўсіх такіх плакатаў не пераскажаш. Газеты не хопіць.

Пра адзін толькі яшчэ згадаць хочацца. Надта ж ён трапны. Улады, значыць, вырашылі свой народны мітынг зрабіць у сваю ж падтрымку. Не могуць яны без народнай падтрымкі жыць. Вось толькі дзе народ узяць? Ну то панапрывозілі адкуль маглі. Прыехалі ў Гародню і з берасцейскімі нумарамі аўтобусы, і нават са сталічнымі. Мітынгоўшчыкаў, значыць, прывезлі. А тыя, як толькі з аўтобусаў павылазілі, то адразу давай крычаць нешта нядобрае на бела-чырвона-белы сцяг. Маўляў, кепскія гэта колеры. А ім у адказ гарадзенцы прасценькі такі тэкст падсунулі:

„Даводзім да вашага ведама, што чалавечая кроў складаецца з белых і чырвоных элементаў. І ваша кроў таксама. Вось і жывіце цяпер з гэтым".

Не ведаю, як яны цяпер жыць далей будуць, даведаўшыся гэтую інфармацыю. Тым больш што яна праўдзівая на ўсе сто адсоткаў. Тут і ЦВК не сфальшуе.

Ну, халера з тымі жартамі, але ж не ўсё так весела. Вось і на несанкцыянаваных мітынгах, акрамя спробы падбадзёрыць сябе і іншых гумарам, больш усё ж сур'ёзнага і зусім не вясёлага. Дастаткова паглядзець хоць адно відэа хоць з якога беларускага горада, хоць з якой мірнай акцыі пратэсту, і ўсё стане ясна. Улада робіць стаўку выключна на сілу і ўвесь час падымае яе ўзровень...

Так, з тых часоў, калі гарадзенцам было паабяцана, што яны могуць хадзіць па сваім родным горадзе са сцягамі і плакатамі і ніхто іх не кране, прайшла, здаецца, цэлая эпоха. Хоць прайшоў усяго толькі адзін месяц. Але зараз у Беларусі такі час, што не толькі месяц, нават адзін дзень ужо эпоха.

І вось ужо і інаўгурацыя кіраўніка краіны прайшла.

Пра яе, здаецца, напісанае ўжо больш, чым пра ўсе папярэднія інаўгурацыі ўсіх папярэдніх кіраўнікоў краін па ўсім свеце. Ну і праўда, што там пра папярэднія пісаць было? Сумота ды і толькі. Картэжы, салюты, народныя гулянні, віншаванні замежных дыпламатаў і тэлеграмы ад кіраўнікоў краін свету. Толькі грошы на вецер выкідваць. А чым плаціць сілавікам, якія будуць спыняць народ з яго віншаваннямі?

А народ выйшаў зноў на несанкцыянаваныя мерапрыемствы. Зноў пад нацыянальнай сімволікай. І зноў дубінкі, газ, стрэлы, затрыманні, арышты, суды, пакаранні... Але людзі працягваюць ісці. Проста выходзяць на мірныя акцыі, каб задэкляраваць, што іх думка не змянілася. Што яны працягваюць настойваць на сваім. Што яны будуць выходзіць, пакуль іх не пачуе ўлада. А калі не пачуе, то ўсё адно будуць выходзіць, пакуль не дамогуцца таго, па што выходзяць.

Гучыць: „Верым, можам, пераможам!". Узлятае ўвысь: „Сцены рухнуць, рухнуць, рухнуць!". Грымiць: „Жыве Беларусь!!!". У народа свая інаўгурацыя. І па вялікім рахунку беларускі народ інаўгураваў сябе ў кіраўнікі свайго лёсу. Ён верыць толькі ў сваю сілу. Ён гатовы ўзяць у свае рукі не толькі ўладу, але і адказнасць за тое, што ўзяў. Ён варты быць інаўгураваны як Беларускі Народ на вечныя вякі. Ён заслужыў гэтае званне. Праз вякі ён выпакутаваў яго. А зараз і заслужыў, паказаўшы, наколькі ён яго варты.

Яшчэ далёка не ўсё закончылася. Ды і не закончыцца ніколі. Кожнае пакаленне мусіць даказваць сваю прагу да волі і справядлівасці. Кожнае пакаленне мусіць дапаўняць да здабыткаў ранейшых і папаўняць іх скарб сваім унёскам...

А пакуль што па вуліцах Гародні людзей у чорным часамі бегае больш чым іншых... Але нягледзячы ні на затрыманні, ні на пакаранні, ні на ціск, Гародня ўсё ж вольны горад. Бо ў ім ужо вітае вольны дух.

Той самы вольны дух, які лунае зараз разам з бела-чырвона-белымі сцягамі над усёй Беларуссю.

**Віктар САЗОНАЎ**



# Ягнячае вока

Кулінарная вандроўка па памежжы Нарвегіі завяршылася смажанай ягнячай галавой. Папраўдзе паловай галавы, прыгожа аздобленай восеньскімі колерамі агароднінных аксесуараў. Да гэтага пюрэ з цёртай бручкі і морквы. У якасці *cordon blue* гэтай стравы, якая абапіраецца на традыцыйных смаках вікінгаў, падаецца вока ягняці. Гэта больш фальклорная закуска, а не банкетная. Хто адмовіцца есці яго, той не пакрыўдзіць разгуляўшыхся гаспадароў. Яны адчуваюць сябе больш нарвежцамі, чым вікінгамі, але і еўрапейцамі. Сапраўды, іх адлегласць да іх саміх уражвае! Яны не адмаўляюцца ад свайго мінулага, але і не абцяжарваюць гэтым сваёй будучыні. Мой дарагі сябар Ян Туронак, апошні беларускі яцвяг, асабіста здзейсніў згаданае кулінарнае падарожжа, настойліва адмаўляўся ад таго глядзеўшага на яго вока. З ветлівасці ўскубнуў ягнячую галаву і з задавальненнем наеўся пюрэ з бручкі і морквы (калі куплю забытую бручку, дык і я яе пакаштую). Такім чынам, мой сябар адначасова кампенсаваў намаганні нарвежскіх гаспадароў, каб ушанаваць наведвальніка з далёкай Польшчы нацыянальнай стравай, не парушыўшы агульных прынцыпаў сусветнай гасціннасці. Яны простыя, як структура цэпа: не марудзіць за сталом, есці тое, што ядуць усе, і, нарэшце, падзякаваць за ежу, як кажа звычай: ці адрыжкай, ці цмоканнем, ці глыбокім паклонам. У Нарвегіі дастаткова сказаць «дзякуй». Так зрабіў і Ян — з прастатой і разважлівай удзячнасцю, што, несумненна, заваявала сімпатыю гаспадароў, якія неахвотна праяўлялі свае пачуцці. Кожная краіна — гэта... своеасаблівая страва. І за яе спосаб удзячнасці. У Швецыі ганаровых гасцей частуюць падгнілым селядцом. На Філіпінах — стравай з ферментаванага пацука. У такіх выпадках слова «дзякуй» сапраўды недастаткова, каб выказаць падзяку, хм, за гонар пачосткі такім далікатэсам. Цікава, як бы паводзіў сябе мой сябар у такім выпадку? Трэба прызнаць, што нацыянальная катэгорыя, якую сам Янка апячатаўся: беларускі яцвяг, прытым апошні, настолькі складаная, наколькі зманлівая. Падобныя, але не аднолькавыя ўскладненні ўзнікаюць у маёй сямейнай генеалогіі, хаця я свядома вызначаю сябе як паляка — але паляка з шырокім спектрам нацыянальных ідэнтычнасцей. Нацыянальныя меншасці ў Польшчы падобныя, але не аднолькавыя. Самі яны вызначаюцца асобнай мовай, звычаямі, у тым ліку кулінарнымі традыцыямі, і ідэнтычнасцю, адзначанай генеалагічнай і гістарычнай памяццю. Толькі той прагрэсіўны эфект міжвольнай паланізацыі меншасцей, які з'яўляецца вытворным ад працэсаў глабалізацыі, размывае іх культурную ўнікальнасць і аўтаномію. Такім чынам, яны непазбежна губляюцца ў «большасці», што неабавязкова з'яўляецца іх свядомым выбарам. Такім чынам, наколькі яны больш дэ-факта, чым намінальна, цяжка меркаваць. У любым выпадку, своеасаблівая «фальклярызацыя» меншасці прагрэсіруе. Гэта тое «ягнячае вока», якое падаецца на святочных застоллях у Нарвегіі ў імя муміфікаваных традыцый, а не ў адпаведнасці з жыццёвымі патрабаваннямі гасціннасці. Аднак беларускія альбо літоўскія народныя «танцы і гарэзы», якія культывуюць звычаі продкаў і кулінарныя традыцыі і, галоўнае, культыванне роднай мовы, зусім не з'яўляюцца фальклорнай муміфікацыяй. Гэта жывая, аўтаномная сістэма ўласнай ідэнтычнасці. Тым не менш складана ўтрымліваць чыста беларускі альбо чыста ўкраінскі абрад у даволі шчыльнай буфернай зоне польскасці. Афіцыйна няма такой нацыянальнай катэгорыі, як польскі беларус, польскі літовец ці польскі ўкраінец. Трэба прызнаць, што такі наменклатурны гібрыд мяне крыху турбуе. Тым не менш такая наменклатура добра працуе на практыцы. Немагчыма адмовіцца ад польскасці, калі жывеш у Польшчы ад дзеда-прадзеда. Падабаецца гэта вам ці не, але будзеш прасякнуты яе культурай, мовай і звычаямі. Быць палякам — не абавязак! Кожны настолькі паляк, як сябе адчувае. Я ніколі не пытаюся ў маіх «меншасных» знаёмых, «кім яны сябе адчуваюць». Гэта іх інтымны выбар. Мой дарагі сябар, Янка Туронак, адчувае сябе апошнім беларускім яцвягам, пра што ён заяўляе адкрыта, праўда, прыжмурыўшы вока. І яму з гэтым добра. Ну і добра! У Нарвегіі ніхто не вінаваціць таго, хто адчувае сябе вікінгам. Таму што ён таксама нарвежац. І таксама еўрапеец. Гэта пытанне здаровай дыстанцыі да самога сябе — кім сябе адчуваеш і хто ты. Аднак лепш быць чалавекам — разумным і адкрытым на іншых.

**Міраслаў ГРЫКА**

# Дом і ежа па-жыдоўску



**Кугель,** фота Аляксандра Вярбіцкага

Для кожнага з нас дом з'яўляецца найважнейшым месцам. Абсталёўваем яго паводле сваіх магчымасцей, але заўсёды мусіць ён быць як мага найбольш функцыянальны.

Нашы продкі жылі ў сціплейшых умовах — хто ж з нас сёння хацеў бы жыць у антуражы сцен, мэблі з даўняй эпохі? Вядома, знойдуцца і такія, што так хацелі б, а па сутнасці па капрызнай схільнасці — каб паказацца, звярнуць на сябе ўвагу. І бывае, што часта не звяртаюць нашай увагі і такія людзі, якіх сапраўднае жыццё ў бядзе і недахопах нагадвае менавіта такую мінуўшчыну.

Хрысціянскія дамы ці кватэры ў жылых блоках, у тым ліку і кухні — абсталяваныя падобна. Бо такая наша хрысціянская традыцыя. У розных народаў кухня розная, залежная ад традыцыі. Аднак такую адрознасць можам пабачыць найчасцей толькі ў замежжы. А калісь? Калісь, яшчэ ў міжваенны перыяд у Польшчы, а ў тым ліку і ў маёй Орлі, жылі побач сябе дзве як жа ж адрозныя культуры — хрысціяне і жыды.

Паводле інтэрнэтнага партала sztetl.org.pl жыдоўскі дом у агульнасці не адрозніваецца ад дамоў іншых культур, па-за некалькімі дэталямі характэрнымі жыдоўскай традыцыі. А менавіта, на вушаку пры галоўных уваходных дзвярах, а таксама ў іншых дзвярах, апрача уваходаў у прыбіральню, кухню ці ў дзіцячы пакойчык, замацаваная мезуза — невялікі драўляны або металічны футляр, усярэдзіне якога знаходзіцца пергамент з біблейскімі сціхамі 4-9 з шостага раздзела („Слухай Ізраіль, Гасподзь, Бог наш адзін. І любі Госпада, Бога твайго, усім сэрцам тваім, і ўсёй душой тваёй і ўсімі сіламі тваімі. І хай будуць гэтыя словы, якія Я сёння запаветую табе, у тваім сэрцы. І навучай іх дзяцей тваіх і гавары пра іх, седзячы дома, ідучы дарогаю, лягаючы і ўстаючы. І навяжы іх у пазнаку на руку тваю, хай будуць яны павязкаю над тваімі вачыма. І напішы іх на вушаках дома твайго і на браме тваёй".) і 13-21 з адзінаццатага раздзела кнігі Другазаконня („Калі вы будзеце слухаць запаведзі Мае, якія сёння запаветую, любіць Госпада, Бога вашага, і служыць Яму з усяго вашага сэрца і ад усёй душы вашай, то дам вашай зямлі своечасовы дождж, ранні і позні, і ты збярэш хлеб твой, і віно тваё, і алей твой. І дам траву на поле тваё для тваёй жывёлы, і будзеш есці і сыціцца. Беражыцеся, каб не спакусілася сэрца ваша, і вы не адхіліліся, і не сталі служыць іншым багам, і не пакланяліся ім...")

Мезуза з'яўляецца вонкавым выразам веры і прыгадвае пра пашану Богу і пра Яго прысутнасць. У знак пашаны, уваходзячыя ў дом, жыды цалуюць мезузу. Варта адзначыць, што калі пасля вялікага пажару Орлі 18 мая 1938 года жыды патрацілі свае дамы, то жыдоўскіх пагарэльцаў прынялі ў свае хаты хрысціяне. І там жыды таксама мацавалі ў дзвярах мезузу — так успамінала мне Марыя Адзіевіч 1930 года нараджэння з Орлі.

На ўсходняй сцяне ў некаторых жыдоўскіх дамах быў сімвалічны арнамент мізрах (іўр.: усход). У аснашчэнні жыдоўскага дома былі прадметы, якія ўжываліся ў час святаў, такія як седэравая талерка для вячэры ў свята Пасхі, падсвечнік на шабас, бальзамікі, сурвэткі для прыкрывання халкі ў час Пасхі і інш.

Там, дзе ў сіле прынцып кашэрнасці ежы, сустракаюцца асобныя камплекты пасуды для мясных і малочных страў, здараецца і кухня падзеленая на дзве часткі, каб прадукты не сутыкаліся з сабою.

## Жыдоўская кухня

У ходзе збірання мною шматлікіх успамінаў усе мае субяседнікі пастаянна падкрэслівалі, што ў жыдоў была іншая чым у хрысціян ежа, што не елі яны свініны.

Жыдоўская кухня дзеліцца на кашэрныя — чыстыя, дазволеныя — і нячыстыя, забароненыя стравы. Дазволенае мяса з рытуальнага забою. Забароненае спажыванне мяса некаторых жывёл, між іншым свініны, крыві, спалучання мяса з малаком, некаторых рыб (тых, якія не маюць лускі), ракападобных і насякомых.

Галоўныя жыдоўскія стравы гэта кугель па-жыдоўску, карп па-жыдоўску, хала, цымус — салодкі жыдоўскі гуляш, чулент — шабасная страва з бульбы, фасолі, кашы, ялавічыны і спецый, тушаная каля паўсутак у стынучай хлебнай печы, холішкес — жыдоўскія галубцы, рыбныя катлеты, салодкі кугель.



Наташа Камарчук у сваім доме. Фота з 1996 года

У жыдоўскіх стравах прысутныя цыбуля і часнок, ужываюцца таксама спецыі: мускатны арэх, шафран, гваздзіка, кмен. Заміж забароненага свінога сала прымяняецца птушыны тлушч. Цукар і мёд ужываецца таксама ў мясных і рыбных стравах.

Падзел ежы на кашэрную і трэфную заснаваны на Біблії, на загадах Майсеевага Пяцікніжжа і пазнейшых тлумачэннях тых правіл рабінамі. У выніку пражывання жыдоў у дыяспары жыдоўская кухня пераймала кулінарныя прыёмы іншых нацый — арабскай, іберыйскай, шмат польскіх, нямецкіх, расійскіх уплываў. Шмат страў паўстала ў выніку прыстасавання мясцовых кулінарных рэцэптаў да патрабаванняў Майсеевых абмежаванняў. Жыдоўская кухня пранікла таксама ў польскую кухню; папулярныя тут карп па-жыдоўску, хала, маца, рыба па-жыдоўску, жыдоўская „ікра" (паста з пячонак), галіцкая салатка і кашэрная слівянка.

## Жыдоўская ежа ў Орлі

У Орлі Наташа Камарчук, якая шмат гадоў працавала служанкай у жыдоў, займалася таксама жыдоўскай кухняй. Прыгатоўленыя ёю стравы жыды вельмі цанілі. Трымалася яна жыдоўскіх рэлігійных абмежаванняў, але ўводзіла таксама — дазволеныя жыдамі — некаторыя стравы з мясцовых кулінарных рэцэптаў.

Здаралася, што жыдоўская моладзь часам пацiху наведвала спадарыню Наташу ў яе доме, каб сустрэцца (арлянскія жыды не дазвалялі, каб маладыя хадзілі з сабою да шлюбу) і таксама дзеля таго, каб паспрабаваць трэфную ежу — каштавалі свіное мяса.

* * *

***Успамін Наташы КАМАРЧУК з Орлі (1905-1997):***

— У жыдоў я служыла больш дзесяці гадоў, у тым ліку адзін год у жыдоўскага лекара Браўна. Не было лекара, то жыды запрасілі яго з Варшавы і ён жыў у мястэчку. І не мае хто яму наварыць; прыйшлі да мяне, каб я варыла. Я навару, а ён кажа: „Наташа, у Варшаве так есці не даюць".

Жыды найчасцей елі селядцы — смажаныя або марынаваныя. На снеданне елі *осых* — булкі пасыпаныя макам. У Бельску варыла такі суп з аўсяных круп і з маслам, бо гаспадар, у якога служыла, быў ужо пажылым чалавекам. І ўсе елі, кожнаму сямейніку давала па талерцы. Свінога мяса нельга было ім есці.

* * *

***Успамін Яраслава АДЗІЕВІЧА з Орлі (1927-2017):***

— Побач старога кіркута (дзе цяперашняе пажарнае дэпо), былі жыдоўскія мясныя крамкі, г.зв. яткі, з забоем на месцы. Але ў жыдоў не кожны мог забіць, напрыклад, курыцу. Займаўся гэтым адзін жыд, а мусіў гэта зрабіць адным толькі сячэннем брытвы. З бараніны ці цяляціны жыды елі толькі „задкі", „перадкоў" не елі. А свініны зусім не прызнавалі.

Спажывалі таксама забароненыя трэфныя стравы

***Успамін Цімафея ВАЛАСОВІЧА з Кашалёў (1921-2011):***

— Да мяне часам заходзіў знаёмы жыд Лейзэр і няраз прасіў, каб я пачаставаў яго свінінай. Але ж у іх было гэта забаронена. Найбольш любіў саланіну. Некаторыя хацелі паспрабаваць нешта іншае. А свініна смачная і пажыўная, а многія з іх елі небагата.

***Успамін Яна САКАЛОЎСКАГА, 1932 года нараджэння з Кашалёў:***

— З жыдамі вучыўся я яшчэ пры саветах, сядзеў з імі за партай. Адзін жыд, Хаім Кручкоўскі, быў нават маім добрым сябрам. І такая тоўстая жыдоўка Эва сядзела ў парце са мною. Бо пры саветах садзілі так напераменку дзяўчат з хлопцамі. Жыды не елі свініны, а той калега Хаім, калі мы прыносілі каўбасу, каштаваў яе, а жыдоўка Пэша крычала, што скажа ягоным бацькам.

***Успамін Яўгеніі ХМЯЛЕЎСКАЙ з роду Пятроўскіх, 1931 года нараджэння з Орлі:***

— Скупкай збожжа займаліся ў Орлі два браты Бжазінскія — Файбэль і малодшы Ошэр. Мелі свае два шпіхеры ў канцы Орлі. Файбэль меў дарослага сына Мэлі, які прыходзіў да нас пагрэцца, чакаючы, аж хто прывязе збожжа. Памятаю, як мае бацькі закалолі кабана, мама нажарыла свініны. То той Мэлі высылаў мяне перад хату, каб я выглядала на вуліцу ці не едзе ягоны бацька, а ён у той час каштаваў свініну — смакавала яму.

***Успамін Зінаіды НЯДЗЕЛЬСКАЙ з Орлі (1916-2001):***

— Жыды былі ў гета, але вечарам прыходзіў тайком жыд Вайштын (уладальнік кафлярні) і хаваў у нас пад падлогай фасолю, сала — усё, што дастаў ад людзей. Тады жыды елі ўсё.

## Гулянкі

***Успамін Наташы КАМАРЧУК:***

— Жыдоўскім кавалерам нельга было хадзіць з дзяўчатамі — у іх гэта было строга! Але здаралася, што некаторыя збіраліся ноччу ў нашу хату. Пазычалі жоўтыя дрожкі ў Вайштына а каня ў аднаго спічкоўца (жыў, дзе Рыбак) і ён прывозіў жыдоў і жыдовак. Елі маю каўбасу са свініны, шынку. Прывозілі добрую гарэлку. І ужо „эрлах" — гулянка. Я нікому пра тое не гаварыла, не прызнавалася — то мяне за тое любілі і паважалі. Іншыя жыды не ведалі. А ў мяне пакаштуюць свінінку...

Апрацаваў, запісаў і сфатаграфаваў
**Міхал МІНЦЭВІЧ**

## Гайнаўскія вуліцы

Улады Гайнаўкі шмат увагі прысвячаюць, між іншым, гарадскім вуліцам, аднаўленню іх маставых і пабудове тратуараў, перабудове дажджавой каналізацыі, а таксама вулічнага электраасвятлення.

На працягу двух апошніх гадоў у горадзе перабудавалі маставыя вуліц Каханоўскага, Міцкевіча, Тувіма, Пшанічнай, Цеснай, Цэльнай, Ляшчынавай, Сланечнікавай і Бортнікаў. Пабудавалі новую пляцоўку для дзіцячых гульняў і скаладром пры вуліцы Ліпавай.

Быў я ў Гайнаўцы 23 верасня гэтага года, між іншым, у справе запланаваных да перабудовы дзвюх гарадскіх вуліц. І вось сёлета ўжо паклалі новы асфальт на вуліцы Рэя на жыллёвым пасёлку „Чваракі" і брусчатку на палавіне вуліцы Бярозавай на пасёлку „Ліпавая". На вуліцы Рэя пабудавалі таксама новую дажджавую каналізацыю.

У Гайнаўцы дбаюць і пра тое, каб вуліцы мелі роўныя і прыгожыя тратуары. Найбольш задаволеныя з тратуараў гайнавяне, якія жывуць па вуліцах: 3 Мая, Баторыя, Пілсудскага, Белавежскай, Беластоцкай, Электрычнай, Касідлаў, Ліпавай, Мілкоўскага, Паддольнай, Простай, Паркавай, кс. Верабея, Ракавецкага, Арміі Краёвай і 11 Лістапада. **(яц)**

## У Гайнаўцы без пачакальні

У Гайнаўцы няма пачакальні для пасажыраў аўтобуснай камунікацыі ПКС і прыватнага пасажырскага аўтатранспарту. Старую разабралі, але можна было карыстацца пачакальняй на чыгуначным вакзале ПКП (тут былі білетныя касы, бар на другім паверсе і туалет). Але яе закрылі. Тут на вялікай пляцоўцы былі пероны для аўтобусаў ПКС, лавачкі і прыгожыя навесы. Пасажырам ПКС і ПКП было выгадна.

Цяпер пасажырам (іх збіраецца многа і едуць яны ў розных напрамках) прыходзіцца чакаць „свайго" аўтобуса на тратуары на вуліцы 3 Мая перш за ўсё пад адкрытым небам. Пад невялікім трохсценным навесам для пасажыраў гарадской камунікацыі можа схавацца ад халоднага ветру або дажджу 5-6 чалавек. Пачакальня для пасажыраў ПКС і прыватных аўтобусаў у павятовым горадзе неабходная. **(яц)**

## Суполка „Лазовае", абудзіся!

У Нараўчанскай гміне Гайнаўскага павета равы зараслі вялікай травой і пустазеллем ды кустамі вербалозу і алешын. Гмінная водная суполка „Лазовае" спыніла дзейнасць на пачатку гэтага года. Яе новы малады старшыня адрокся ад пасады. Члены праўлення суполкі да гэтай пары не збіраліся, каб абмеркаваць, што рабіць далей.

Адзіны паратунак на заліўных лугах у тым, што сёлета было сухое лета і пачатак восені. А равы хутка зарастаюць. Сяляне чакаюць, калі пачне працаваць водная суполка. **(яц)**



## Адлятаюць жураўлі

19 і 20 верасня гэтага года з Палесся на Беларусі, з ціхіх падмоклых ваколіц над Семяноўскім возерам у Нараўчанскай гміне ды з балоцістых палянак пасярод і на ўскраінах Белавежскай пушчы, між іншым, непадалёк вёскі Крыніца пачалі адлятаць у выраў журавлі. Найбольш чутнае іх галоснае курлыканне было ў тыя дні пад вечар.

Бывае, што ляцяць яны бязладна або вельмі часта ў гэтак званых ключах. **(яц)**

# Салідарныя з Беларуссю

У суботу, 26 верасня 2020 года, мы з жонкай былі на канцэрце „Салідарныя з Беларуссю". Гэты канцэрт адбыўся на стадыёне ПГЭ Нарадовы ў Варшаве.

Але зараз я хацеў прыгадаць яшчэ адзін канцэрт. Першы канцэрт адбыўся 12 сакавіка 2006 года на плошчы Новага горада ў Варшаве. Арганізацыя мерапрыемства мела быць выразам супрацьдзеяння спадзяваным фальсіфікацыям на прэзідэнцкіх выбарах у Беларусі. Польскія акцёры, у тым ліку Барыс Шыц, Збігнеў Замахоўскі і Данель Альбрыхскі, распавялі пра парушэнні правоў чалавека ў Беларусі. Таксама выступіў малады беларускі актывіст Францішак Вячорка.

Мэтай першага канцэрта таксама было паказаць падтрымку дэмакратыі і прыцягнуць увагу да праблемы парушэння правоў чалавека ў Беларусі. Яго выканаўчым прадзюсарам стаў Ігар Знык. Такія «гістарычныя ўспаміны» нахлынулі на мяне.

* * *

«Меў я цудоўны сон, гэта не штодзённасць,
Неба было сіняе, а сонца свяціла намнога мацней!»
(RF BRAHA)

Сёння я ні аб чым не марыў, але сэрца білася мацней, чым учора. На смак цыгарэты былі амаль як ліпавы чай. Халодны сакавік.

Мы дапамагаем Ігару зрабіць тое, чаго ніколі не было. Канцэрт «Салідарныя з Беларуссю» на TVP! Дапамагаем гасцям з Беларусі. Мы дапамагаем ім адчуваць сябе добра сярод людзей, якія праяўляюць салідарнасць з імі. Думаю, трэба нешта ўзгадняць, перакласці, арганізоўваць і г.д.







Выклікаю калектывы на сцэну. Калі паляк ці полька скончаць, я клічу наступнага з Беларусі. Насоўская падалася мне халоднай. Я ведаю, што гэта проста халодны сакавік, сітуацыя і я, хто папрасіў яе выйсці на сцэну.

*«Нічога сапраўды не дапаможа / Калі ты сёння не дапаможаш каханню .../ Паспрабуй зрабіць жэст / Перш чым паверыць, што нічога не варта рабіць»*

Адам Новак быў, мабыць, цяплейшы. Але ўсе яны былі побач. Салідарнасць побач. А я пасярэдзіне, на самай справе адзін з адным. Яно таго варта!

**«Ці пагаджаецеся на тое, што ёсць? НЕ! Пакутаваць пры нас? НЕ! Ніхто не можа адабраць у нас свабоду! Мы разам, і мы пераможам!»**

Перад сцэнай на рынкавай плошчы некалькі тысяч чалавек. Я не бачыў столькі людзей ні на Рыначнай плошчы, ні нават на ўсіх рынках Новых Гарадоў і Старых Вёсак.

Канцэрт пачаўся ў 17.00 і ў 17.30 яго транслiравалі па Першай праграме TVP. Дзе-небудзь яшчэ? Я не ведаю. Можа, хтосьці ў зацішку сваіх офісаў паглядзеў на гэта (нават некалькі разоў).

Увесь час холадна ў рукі, і ў ногі таксама. Мне здаецца, я кепска апрануўся. Думаў, будзе цяплей, хаця ўнутры нібыта горача. Побач з рынкавай плошчай у рэстаране ёсць два пакоі, падрыхтаваныя для мастакоў. Злева (меншы) для музыкаў з Беларусі і справа (большы) для музыкаў з Польшчы. Рок-зоркі разам граюць канцэрт, але чакаюць сваёй чаргі асобна, напэўна, каб добра падрыхтавацца, хваляванне перад сцэнай вялікае. У рэшце рэшт, падобнае адбываецца ўпершыню! Напэўна, НІХТО не чакаў такой яўкі, асабліва польскія каманды. Я адчуваў, што яны не ведаюць, у чым удзельнічаюць. Я таксама не ведаў. Ігар рабіў выгляд, што ведае!

Палітыка мяне не цікавіць. Я аддаю перавагу мастацтву. А іншыя ? У Ігара быў ФУН-стрэс. Напэўна, ніхто не ведаў, якая яго роля. У «Рэстаране» быў агульны праход і калідор. Гэта лёгка. Складаней падключыць усё на сцэне. Сумесны канцэрт, якога ніхто ніколі не граў. «Салі-дар-ныя з Бе-ла-руссю!» Я не бачыў канцэрта. Адчуваў яго за сабою.

«Белы сцяг» па-беларуску! Заўсёды сцяг. Сенька спяваў страфу. Былі таксама NRM, Дзіма Вайцюшкевіч, Саша Кулінковіч, Ігар Варашкевіч, Кася Камоцкая, Корань, Руся, Міша і Павел. І Маркоўскі, Мунек і іншыя салідарныя з імі. Анджэй Вайда сказаў: «Мяне кранула. Я дажыў да таго, як мы прыйшлі да свабоды і да таго моманту, калі я клапачуся пра свабоду іншых». Мяне таксама кранула (цікава, ці быў Маркоўскі ў Беларусі па гэты дзень?).

Холад, рукі мерзнуць. П'ем гарачую гарбату. На запясцях у нас белыя, чырвоныя і белыя гумовыя паяскі. Мода і хіт! Гумкі. Мода на «Салідарных з Беларуссю». Пасля канцэрта за сцэнай было неяк ніякавата. Вялікая справа, вялікі канцэрт і думаеш, што далей? Што з гэтай свабодай? Што будзе сёння ўвечары, заўтра, што праз пяць гадоў? Надзея са стомленасцю. А можа, для музыкаў гэта проста звычайны канцэрт для гледачоў? Публіка таксама выдатна правяла час. Тады сцягі былі схаваны, і мы ўбачымся ў наступным годзе! Я не ведаю, хто прыдумаў паехаць куды-небудзь яшчэ. Можа, Ігар? У які-небудзь клуб, што-небудзь з'есці, магчыма, выпіць. Для здароўя альбо для сагрэву.

Выпала на „Skład Butelek" на Празе. Клуб у двары 11 Лістапада (дзень аднаўлення Польшчай незалежнасці). Мы ездзілі толькі з Пітам з NRM і яго жонкай Зояй. Піт сказаў, што астатнія засталіся ў гатэлі. І для яго гэта пустая трата часу на гасцініцу. Лепш нешта ўбачыць і пазнаёміцца з людзьмі. Месца нагадала яму Берлін («Мы былі там з Зояй! Такіх месцаў шмат, у Мінску няма ніводнага».) Мы сядзім і размаўляем, Зоя кажа, што «Піт мяне ніколі не бярэ на канцэрты. Цяпер ён упершыню ўзяў мяне ў такое падарожжа».

«... Гэй, ла-ла-лай, / Ты не чакай, / сюрпрызаў не будзе. / Гэй, ла-ла-лай, / Ніхто не чакае, / і ты не чакай...»

А як было за сцэнай у гэтую суботу? І што будзе далей?

Дар'юш ЖУКОЎСКІ

# Пецярбургскі здымак **Яўгена Хлябцэвіча**

У „Ніве” ад 23 жніўня 2020 года быў апублікаваны мой матэрыял „Бельскі фотаздымак Яўгена Хлябцэвіча”. Звесткі пра беларускага бібліятэказнаўца, бібліёграфа і літаратуразнаўца, кандыдата педагагічных навук Яўгена Хлябцэвіча (1884-1953) з кожным днём адшукваюцца новыя і новыя. Планую, як усё будзе добра, сабраць яго артыкулы-ўспаміны пра Янку Купалу, Цётку, Якуба Коласа і іншыя пад адну вокладку і выдаць асобнай кнігай.



Пецярбургскі здымак Яўгена Хлябцэвіча, які сёння друкуецца, быў зроблены ў Санкт-Пецярбургу ў 1912 годзе. Тады студэнту Хлябцэвічу споўнілася 28 гадоў.У гэты час ён быў студэнтам Пецярбургскага ўніверсітэта, адным з арганізатараў Беларускага навукова-літаратурнага гуртка. Там ён упершыню пазнаёміўся з Янкам Купалам. А адбылося гэта на курсах А. С.Чарняева ў 1909-1913 гадах. У Ленінградскім дзяржаўным гістарычным архіве захоўваецца тэлеграма Яўгена Хлябцэвіча з Бельска да Янкі Купалы ў Санкт-Пецярбург, дзе ён прасіў напісаць за яго заяву ў канцылярыю ўніверсітэта аб пераводзе ў Варшаўскі ўніверсітэт.

Пад псеўданімам Яўгеньеў у газеце „Новая Русь” 9 лістапада 1919 года Яўген Хлябцэвіч надрукаваў бібліяграфічную нататку „Жалейка” Янкі Купалы” — пра першы зборнік вершаў нашага песняра.

У Санкт-Пецярбургу Яўген Хлябцэвіч рэдагаваў „Кніжны і бібліятэчны лісток” пецярбургскай газеты „Новая Русь”, дзе дапамог на яе старонках друкавацца Янку Купалу.

У 1940-1950-х гадах Яўген Хлябцэвіч апублікаваў шэраг артыкулаў, прысвечаных Янку Купалу. Найперш гэта былі ўспаміны пра народнага песняра, сярод якіх — „Янка Купала ў Пецярбургу”, „Янка Купала на агульнаадукацыйных курсах А. С.Чарняева”, „Янка Купала і Пецярбургскі ўніверсітэт”, „Янка Купала і бібліятэкі”, „Пісьмо Янкі Купалы ў газету „Новая Русь” і ўдзел у ёй Л. М. Талстога”.

Перапісваўся Яўген Хлябцэвіч і з Максімам Багдановічам. Як сцвярджаў мой зямляк Віталь Скалабан (1947-2011), чатыры лісты Максіма Багдановіча да Яўгена Хлябцэвіча захоўваліся напярэдадні Другой сусветнай вайны ў Акадэміі навук БССР. Магчыма іх перадаў яшчэ ў 1920-я гады ў Інбелкульт сам Яўген. Ці засталіся іх копіі — цяжка сказаць. Але пакуль гэтыя лісты не адшукаліся і лёс іх невядомы.

І калі сябраваў Яўген Хлябцэвіч з Янкам Купалам, Цёткай, перапісваўся з Якубам Коласам, Максімам Багдановічам — ён выглядаў так, як на гэтым здымку. Яўген быў вельмі прыгожым, адукаваным, шчырым беларусам. Лёс яго і яго сяброў — беларускіх песняроў, склаўся па-рознаму. Але яны былі і застануцца назаўсёды ў гісторыі нашай Бацькаўшчыны.

Сяргей ЧЫГРЫН

1 ☞ працяг

## Фестываль...



Хор Ільінскага прыхода ў Беластоку

хадскіх хароў заняў маладзёжны хор «Амафор» з Новых Засімавіч (Беларусь). Сярод дзіцяча-маладзёжных выканаўцаў першае месца заняў маладзёжны хор «Фэст» Сярэдняй школы № 201 горада Мінска (Беларусь), а трэцяе месца журы прызначыла маладзёжнаму хору Раджэственскай царквы ў Гродне (Беларусь). Сярод акадэмічных выканаўцаў трэцяе месца заняў вакальны калектыў «Рэха» з Мазыра (Беларусь). Другое месца ў гэтай катэгорыі заняў хор «Дорас» з Масквы (Расія). Сярод дзіцяча-маладзёжных выканаўцаў другое месца разам з гайнаўскімі вучнямі заняў дзіцяча-маладзёжны хор «Лампада» з царквы Усіх святых у Курску (Расія). У катэгорыі іншых хароў другое месца заняў вакальны калектыў «Эспэрымента» Маладзёжнага дома культуры ў Беластоку, на трэцім месцы апынуўся вакальны калектыў «Армонія» з Беластока, а вылучэнне атрымаў хор псаломшчыкаў і дырыжораў Праваслаўнай царквы ў Польшчы.

— Мы штогод прыходзім на фестываль паслухаць цудоўны спеў у выкананні розных хароў, — сказалі жыхаркі Гайнаўкі.

Арганізатары фестывалю — Грамадскі арганізацыйны камітэт, Аб'яднанне «Любіцелі царкоўнай музыкі» і Гайнаўскі дом культуры — запрапанавалі паслухаць фестывальных удзельнікаў у час асобных канцэртаў у Бельску-Падляшскім, Сямятычах, Новаберазове і Міхалове. У Надлясніцтве Гайнаўка харыстам былі арганізаваны інтэграцыйныя сустрэчы з пачастункам ля вогнішча. Удзельнікі міжнароднага фестывалю маглі пабываць таксама на навуковым семінары ў Праваслаўнай школе псаломшчыкаў у Гайнаўцы, прысвечаным харавому спеву царкоўных твораў. Гайнаўскі фестываль суправаджалі выставы ў ніжняй царкве Свята-Троіцкага сабора, на агароджы вакол царквы і ў Гайнаўскім доме культуры. Экспазіцыя «Архіепіскап Міран — несці мір, любіць людзей» прысвечана была загінуўшаму ў авіякатастрофе пад Смаленскам іерарху нашай Царквы. Выстава «З іконай праз свет...» расказвае аб пешаходных паломніцтвах з Гайнаўкі ў Пачаеўскую лаўру, а «Святыя падляшскія куткі вачамі маладога чалавека» з'яўляецца падсумаваннем праекта, у час якога маладыя асобы, пабываючы ў старых дамах, вывучалі святыя куткі і знаёміліся з пісаннем ікон і вышыўкай ручнікоў для такіх куткоў. Да сотай гадавіны з дня нараджэння папы рымскага Яна Паўла ІІ прымеркаваная выстава «Караль Вайтыла. Народзіны». Экалогіі тычыцца выстава «Ахоўвайма тарфянікі».

Гала-канцэрты, якія завяршылі фестываль, адбыліся 19 верасня ў Свята-Троіцкім саборы ў Гайнаўцы і ў Сафійскай царкве ў Беластоку. Прысутны на гала-канцэрце ў Свята-Троіцкім саборы епіскап Павел звярнуў увагу на паспяховае правядзенне фестывалю ва ўмовах эпідэміі каранавіруса і на ганаровы патранат над фестывалем прэзідэнта РП Анджэя Дуды. Епіскап падзякаваў арганізатарам і ўдзельнікам мерапрыемства і выявіў спадзяванне, што саракавы, юбілейны фестываль адбудзецца ў запланаваным на май будучага года часе і без санітарных абмежаванняў.

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

## Соль лечыць

Гэты сродак здольны выратаваць нават ад раку!

Саляны раствор — наймацнейшы антысептык. Пра гэта стала вядома ў часы Другой сусветнай вайны. Калі лекарам не хапала лекаў і сродкаў дэзынфекцыі, саляны раствор з поспехам прымяняўся для лячэння сур'ёзных раненняў.

Іван Іванавіч Шчаглоў — хірург, які першым выкарыстаў саляную павязку для лячэння параненых салдат. На шырокія раны наносілі сурвэткі, змочаныя ў гіпертанічным саляным растворы, і ўжо праз пару дзён яны мяняліся: станавіліся чыстымі і зацягваліся новай злучальнай тканкай.

Соль валодае абсарбавальным дзеяннем, выцягваючы ўсе патагенныя арганізмы з пашкоджаных тканак. Таксама соль спрыяе гаенню і хуткай рэгенерацыі клетак. І гэтыя цудоўныя солі можна ўжываць для лячэння разнастайных захворванняў!

Салевыя павязкі. Салевы раствор дапамагае вылечыць халецыстыт, нефрыт, хранічны апендыцыт, запаленчыя працэсы ў лёгкіх, суставах, рэўматызм, астэаміэліт, ускладненні, якія ўзнікаюць пасля алергічных рэакцый, удары. З дапамогай салевых павязак можна лячыць кашаль — дастаткова нанесці павязку на спіну, і праз некалькі гадзін стан хворага палепшыцца.

Насмарк, галаўныя болі і бранхіт праходзяць, калі накладваць салевыя павязкі на вобласць галавы, носа і шыі. Вядомыя выпадкі выратавання ад раку пры дапамозе гэтага метаду: рак скуры і грудзі праходзіў у пацыентаў, якія выкарыстоўвалі цудадзейную соль сабе на карысць.

Салевы раствор можна выкарыстоўваць у павязцы, але ні ў якім разе не ў кампрэсе. Каб прыгатаваць саляны раствор, пакладзі ў 1 літр вады 90 грамаў сталовай солі — прыкладна 3 сталовыя лыжкі. Старанна размяшай сумесь. У цябе атрымаецца 9-працэнтны саляны раствор. Вазьмі 8 слаёў баваўнянай марлі, адлі частку раствору, прапітай ім марлю. Накладзі марлю на праблемную зону, забінтуй яе зверху. Лепш за ўсё такія павязкі рабіць на ноч.

Салевая павязка выцягвае з арганізма таксіны і забівае розныя інфекцыі. Дзейнічаючы лакальна, яна эфектыўна паглынае вадкасці з падскурнага пласта і больш глыбокіх тканкавых слаёў, выдаляючы мікробы, вірусы і іншыя хваробатворныя мікраарганізмы. Падчас дзеяння павязкі адбываецца абнаўленне тканак, паляпшаецца цыркуляцыя крыві і адток лімфы. Так можна лікваваць практычна любую хваробу!

Падзяліся са сваімі блізкімі гэтым правераным сродкам. Фармацэўтам невыгадная рэклама падобных метадаў лячэння, але гэта не значыць, што яны не спрацоўваюць!

Агата АРЛЯНСКАЯ

## Найпрыгажэйшыя сялянскія сядзібы

31 жніўня гэтага года падчас сесіі Гміннай рады ў Нараўцы ўручылі ўзнагароды пераможцам конкурсу пад загалоўкам „Найпрыгажэйшыя сялянскія сядзібы ў Нараўчанскай гміне ў 2020 годзе”.

У катэгорыі „Сядзібы” два раўнапраўныя першыя месцы занялі Барбара Бяляўская з Янова ды Аліна і Багуслаў Стульгісы з Нараўкі, другое месца заняла Зося Хомка з Семяноўкі ды два раўнапраўныя трэція месцы занялі Зіна і Яўген Рэнты ды Караліна Дрозд — усе са Скупава. Вылучэнні ў гэтай катэгорыі атрымалі Ірэна Бірыцкая з Семяноўкі, Катажына Марціновіч з Лешукоў, Данута і Кшыштаф Шумарскія ды Мартына Стульгіс з Нараўкі.

У катэгорыі „Двары” вылучэнне атрымалі Юліта і Анатоль Матысюкі з Семяноўкі.

У катэгорыі „Сядзібы агратурыстычных кватэр” трэцяе месца заняла Валянціна Германюк са Скупава. Вылучэнне ў гэтай катэгорыі атрымаў Яўген Валкавыцкі з Заблотчыны.

Віншуем пераможцаў конкурсу!

(яц)



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

Зорка
для дзяцей і моладзі

# Як «Тры чарапахі» амаладзілі Беларусь

Да нядаўна культавая песня «Тры чарапахі» была «ўласнасцю» маладых, для якіх рок-музыка з'яўляецца голасам пакалення. Але цягам апошніх двух месяцаў шмат змянілася. Вось «Тры чарапахі» спяваюць нават пажылыя і старыя людзі. Іх бачым на Маршах свабоды і на суседскіх канцэртах, якія ладзяць у дворыках жыхары Мінска. На сваце «Тры чарапахі» згодна называюць песняй Рэвалюцыі Годнасці. Як не цікава, у гэтай старой песні гурта «НРМ» з 2006 года адменена страфа: Хэй ла-ла-лай, ты не чакай, сюрпрызаў не будзе» ... і яна гучыць так: Ты не чакай — чаканне дастала!

Чаканне дастала — у нас бы сказалі, што чаканне абрыдла або надаела...

Праз маленькую, здаецца, замену, песня стала гімнам нязгоды на адмоўныя правілы жыцця. Іх не ўспрымаюць усе — і маладыя, і старыя. Старая песня, як не цікава, амаладзіла стрэйшыя пакаленні. Кожны з нас, хто бачыць бабулю, якая запявае «Тры чарапахі», адразу заўсміхаецца і падасць ёй руку, каб разам маршыраваць па свабоду і свае мары.

*Калі раптам адчуеш камунальныя пахі,*
*і жыццё цябе возьме ў пятлю.*
*Зразумееш тады, што тры чарапахі,*
*Па-ранейшаму цягнуць зямлю.*

*Калі выйдзеш у горад ці залезеш у горы,*
*і з людзьмі ўсталюеш кантакт,*
*Зразумееш тады, што і сёння і ўчора,*
*Наша месца на трох кітах.*

*Хэй ла-ла-ла-лай,*
*Ты не чакай, чаканне дастала*
*Хэй ла-ла-ла-лай,*
*Ты не чакай, ты не чакай.*

*Не было Галілея і Боба Марлея,*
*Не было Сальвадора Далі.*
*Ні Леніна, ні Ленана, ні Карла Лінея,*
*Толькі тры чарапахі былі.*

*Хэй ла-ла-ла-лай,*
*Ты не чакай, чаканне дастала.*
*Хэй ла-ла-ла-лай,*
*Ты не чакай, ты не чакай.*

*Каб любіць Беларусь, нашу мілую маму,*
*Трэба ў розных краях пабываць.*
*Зразумееш тады — пад тваімі нагамі*
*Тры сланы нерухома стаяць.*

*Хэй ла-ла-ла-лай,*
*Ты не чакай, чаканне дастала.*
*Хэй ла-ла-ла-лай,*
*Ніхто не чакае, і ты не чакай.*

Цікавая гісторыя песні, яна нарадзілася пад уплывам прамовы прэзідэнта Расіі Барыса Ельцына, якую спевакі пачулі ў дарозе, едучы ў Польшчу. Аўтарам з'яўляецца самавіты Лявон Вольскі. Сюжэт песні будуецца вакол міфа аб трох чарапахах (ці трох кітах са сланамі), якія згодна з уяўленнямі старажытных народаў трымаюць зямлю. У песні пералічаны людзі, якія паўплывалі на развіццё цывілізацыі, а таксама каштоўнасць падарожжаў, якія прывіваюць любоў да роднай старонкі. **гак**



*Міколка Здрайкоўскі і яго рок-шоў на 25 сакавіка 2012 года*

## Адкуль Баб'я Гара?

Гэтая вёсачка на краю Нараўчанскай гміны мае дзіўную прыцягальную моц. У Баб'ю Гару цягнуць турысты з усяго свету, каб надыхацца прыгожасцю Белавежскай пушчы. Яны назіраюць чорных буслоў, вандроўкі магутных зуброў і аленяў.

А ведаеце адкуль такі феміністычны назоў вёскі?

Даўным-даўно, як гаварылі старыя людзі, якія пачулі гэта ад сваіх дзядоў, а тыя ад сваіх дзядоў, рака Нарва плыла ў шэсць рэчышч. Паміж імі знаходзіліся лугі і балоты, навокал шумела пушча, напяваючы свае ветраныя песні. Людзі не сяліліся ў гэтым дзікім кутку, казалі, там ад ваўкоў не адагнацца...

Аднойчы ранняй вясной, разам з паводкай, рака выкінула на пусты бераг жанчыну. Яна атрэслася з мулу і жабурыння, азірнулася туды-сюды ды ўскараскалася на пагорак, што высіўся сярод лугоў. І пачала яна там жыць ды варажыць!

Ад таго часу вялікая слава пайшла пра Баб'ю Гару. **Зорка**

*Міра ЛУКША*

### Тры чарапахі

Над рэчкай Жоўтай
жыў чарапаха Ча.
Нагамі боўтаў
у жоўтай вадзе за дня.

Вечарам кідаў
бутэльку-ліст на ваду:
Ён чарапасе Ра
пісаў пра радасць, бяду.

Ра ў Белай мела жытло
з Любкі ж быў яе муж,
Пахай звалі яго,
панам равоў і калюж.

Хадзілі б Паха і Ра
над Жоўтую рэчку да Ча,
ды аднаго камара
замала на двух для харча.

Гэй, чарапашкі мае!
Паха, Ра мілая і Ча!
Паразумецца прасцей,
калі ў вас мейл і чат.

Гасцінец як перадаць,
каб свежы пад Бельск
дайшоў?
Добра яго спакаваць,
і выслаць поштай буслоў.

**УВАГА КОНКУРС! № 40-20**

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку” да 11 кастрычніка 2020 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Цераз мяжу дзве сястры жывуць, ды адна другой не бачыць.**

**В...**

**Загадкі з роднай хаткі**

**Адказ на загадку № 36: лыжка. Узнагароды, значкі з Пагоняй, выйгралі Мілена Федарук і Лена Карпінская. Віншуем!**

**Дуб** — найбольш шанаванае дрэва ў беларусаў ды іншых славян. Яно — сімвал вечнага жыцця. Яшчэ ў некаторых вёсках на Падляшшы, напрыклад у Палічнай, што ў Белавежскай пушчы, амаль ля кожнай сядзібы расце дуб. Дрэва садзілі не адно для прыгожасці. Яно выконвала ахоўную ролю перад перунамі. Менавіта ў час навальніцы ў дуб часта б'е маланка. Старыя дубы пазначаны перуновымі шрамамі зверху да зямлі.

Для нашых продкаў дуб увасабляў сабой моц, сілу і мужчынскі пачатак. Дубы забаранялася ламаць, секчы ці рэзаць. Людзі

Фота Адама Паўлоўскага



# Міфы старажытных беларусаў

верылі, што акт знішчэння дрэва можа наклікаць хуткую і нечаканую смерць. Толькі міфічныя асілкі «вырвідубы» мелі права вырваць дрэва з карэннем, каб зрабіць з яго зброю і абараніць народ перад ворагам-захопнікам або бандытам-пасланнікам змрочных сіл.

Людзі верылі, што верхняя частка дуба належыць небу, таму з ёй увасаблялі дабрыню, веды, вечнасць. Ніжняя частка дрэва, уключна з карэннем, была спалучана з падзямельным светам. Там знаходзіўся ўваход у казачнае «трыдзявятае царства», краіну смерці. Павер'е сягае глыбокіх часоў мінулага, калі нашы продкі палілі целы нябожчыкаў і хавалі іх пад карэннем векавога дуба. У памяць пахавальнай традыцыі ў часы хрысціянства пачалі ставіць дубовыя крыжы над магілай. Таксама ў знак пашаны памерламу рабілі дубовую дамавіну.

На Падляшшы ва ўрочышчы Крыначка, што ў Белавежскай пушчы, захавалася святлістая дуброва (кострын). Старыя дубовы парк гэта пляцоўка царквы і святой крыніцы.

Ва ўрочышчы ладзяць царкоўны фэст на другі і трэці дзень Тройцы. Свята ў народзе называюць «Крыначка». Сюды з'язджаюць жыхары прыпушчанскіх вёсак, якія яшчэ адносна нядаўна ладзілі пачастунак пад векавымі дубамі.

Пра сувязь нашых продкаў з дубам сведчаць і назвы падляшскіх мясцовасцей: Дубіны, Дубно, Дуброва.

*(Адрэзак на аснове «Беларускай міфалогіі для дзяцей»)*

**гак**

*Якуб ВАСІЛЬЧЫК*

*ПШ у Нараўцы*

## Школа

Школа для звычайнага чалавека
— будынак.
Для цябе, вучня, твой другі дом.
Ты там вучышся,
Маеш сяброў.
Калі прыедзеш дарослы,
Зноў будзеш вучнем гэтай школы.

## Салодкія аксаміткавыя **вафлі**

*(Рэцэпт з культавага даведніка Руды Басера для гурманаў і агароднікаў «Зёлкавае шчасце»)*

Кожны з нас ведае аксаміткі. Яны якраз пышна квітнеюць на градках ажно да надыходу маразоў. Аксаміткі патрапілі да нас з Мексікі. Для індзейцаў гэта святыя расліны, якія скарыстоўваюць у рытуальных абрадах і асабліва ў кулінарыі. Аксаміткі дадаюць да гарачага шакаладу, сочыва, мяса, рыбы, салатак, агародніны, робяць з іх дрэсінгі, настойкі, гарбаткі.

Расліна надае страве характэрны арамат і прысмак, а таксама, як вераць індзейцы, дзейнічае супраць дэпрэсіі і накопленай стомленасці. Дапамагае таксама пазбыцца з арганізма чарвей і паразітаў...

Таму разам з надыходам восеньскіх халадоў варта «рассвятліць» настрой з дапамогай гэтай чароўнай расліны. Для кулінарных мэт Руды Басер прапануе аксаміткі танкалістыя (*Tagetes tenuifolia*), якія маюць дробнае лісце і адзін радок пялёсткаў на кветцы.

**Складнікі:**
*6 яек,*
*120 грам мяккага масла,*
*100 грам цукру,*
*200 грам мукі,*
*125 міліграмаў смятаны,*
*125 міліграмаў малака,*
*2 лыжачкі парашку для пячэння,*
*2 шчыпкі ваніліну,*
*пялёсткі з 20 аксамітак,*
*20 грам пасечаных ліосткоў аксамітак,*
*цукар-пудра для пасыпання.*

Спачатку трэба аддзяліць жаўткі ад бялка. З усіх складнікаў, апрача бялкоў і цукру-пудры, вырабляем цеста. Затым збіваем пену з бялкоў і мяшаем яе з цестам. Сасмажаныя ў вафельніцы (gofrownicy) вафлі пасыпаем цукрам-пудрай. Да іх можам дадаць яблычны мус або мармелад з апельсінаў.

Смачна есці!

***(гак)***

## Польска-беларуская крыжаванка № 40-20




Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 36-20:**

Брат, хатка, карп, так, мур, тон, ах, Пагоня, верасень, на, пачатак, сом, воз, том, Ян, мак, рыцары. Птах, ах, поза, вазак, меч, там, рака, тупат, ды, краса, на, гектар, тон, конь, моц, Таня, но, яр, перамены.

Узнагароду, каляровыя «магічныя» фламастары, выйграла **Дыяна Іванюк**. Віншуем!

# Вайна і саветы

**(ч. 12)**

І нашы здольныя да рамяства і жалеза кавалі не драмалі і часам цудоўныя і моцныя рэчы рабілі, што можна было гэтым захапляцца. Сярод іх быў Сымон Корх з Кархоў, які прыступіў, значыць прыйшоў у прымы да Анастасіі Тафілюк, дачкі Сідара. І так жыццё ішло манатонна, але весела і дружна. І адзін аднаму дапамагаў, а гэта наш прыроджаны інстынкт цёплага сэрца, дабрыні і спагады. А без гэтага вельмі цяжка жыць, што не ў сілах і праявіць, і зразумець.

Куплялі і ровары, а яны былі вельмі добрыя, моцныя і лёгкія, хаця добрых дарог не было, але такім роварам можна было ехаць нават па пяску, бо меў ён колы-«баляноўкі», то-бок шырокія.

І дзіўна, усё таннела, а гэта сведчыць што Польшча адраджалася, хаця з асветай і культурным жыццём было маркотна. А хто ведае, калі б не вайна? Можа і да нас прыйшло б «сонца ў наша аконца»? Хаця яно і прыйшло, і то з вялікім гукам і лёскатам, аж вушы звінелі і сэрца радавалася, як у райскім садзе. Ясна, гэта было 17 верасня 1939 года. Але пакуль па парадку.

Таксама з турмы вярнуўся Грыша Лемеш, і хаця быў сынам багатага селяніна, аднак дух Леніна і ідэя на светлае будучае сваё зрабіла і ён шчыра ў гэта паверыў. Далейшыя падзеі яго расчаравалі, пра што буду пісаць пазней.



Аднак было чуваць ціхі подых навальніцы з маланкамі з захаду і людзі добра ведалі, што будзе вайна, бо ўжо да вайны 1939 года распачалася масавая мабілізацыя маладых людзей у войска. Аднак нашы людзі не ведалі, што падобная бура, ды вельмі ціхая, як смерць, падкрадаецца і з усходу. Людзі чыталі, мо і рэдка, але чыталі газеты, што краіне пагражае вялікая небяспека. А па радыё з Масквы (слухачы ўначы ўключалі на гэтую хвалю прыёмнікі) слухалі з захапленнем прыгожую савецкую патрыятычную песню «Если завтра война, будь к походу готов», а далей «свяшчэнныя» яе словы і працяг: «Мы войны не хотим, но себя защитим, оборону крепим мы недаром; и на вражьей земле мы врага разгромим, малой кровью, могучим ударом».

Што ж, гэта «малая кровь» каштавала Савецкі Саюз прыблізна каля 30 мільёнаў ахвяр. Але для Сталіна і яго хеўры гэта было толькі статыстыкай. Яны з гэтага толькі смяяліся і адзін аднаму чаплялі на грудзях залатыя медалі, ордэны і званні Героя Савецкага Саюза.

Але я мо за далёка забег. І па чарзе. І пра падзеі набліжаючагася гора вайны нашы людзі меркавалі па-свойму. І нават разумны Арцём Чыквін, ён жа і нядрэнны палітык, сцвярджаў, што Гітлер Польшчу не разаб'е, бо мае яна верных саюзнікаў, як Францыя, Англія і тыя грудзьмі будуць бараніць нас, то ёсць Польшчу. Арцём меў брата Дзям'яна, які быў невідушчы і свету не бачыў, і свае яму дапамагалі як маглі, але не ў сілах былі яму запэўніць дастатковае і належнае жыццё, бо і самі жылі бедна. А ў Арцёма была вялікая сям'я. Але Дзям'ян быў разумным чалавекам і ў размове з братам гаварыў яму: «Ты вельмі памыляешся і немцы Польшчу ў маршы захопяць і то скора, маланкава яе захопяць. А саюзнікі Францыя і Англія толькі па паперы ёй дапамогуць». Так і сталася. На жаль, «прароцтвы» Дзям'яна здзейсніліся.

І вайна выбухнула 1 верасня 1939 года. Нашы людзі гэтым не вельмі пераймаліся, паколькі Дубічы яна мінула. Толькі чуваць было выбухі бомб недзе пад Чаромхай і Гайнаўкай. Немцы бамбілі стратэгічныя мэты і чыгунку. Акурат распачалося капанне бульбы на палетках і сяляне, згорбленыя, гарталі загоны, а тут цэлыя табары карэт, панскіх павозак пацягнуліся на ўсход. Але ўцекачы — паны, пані, што сядзелі ў гэтых павозках, былі, відаць пры гумары, бо, смеючыся, перакрыўлялі нашых мужыкоў. Ясна, яны былі ўпэўнены, што іх вандроўка кароткая і яны скора вернуцца дамоў, і Англія, Францыя скора пагоняць фашысцкую Германію назад, як нейкую пакуль нястрашную чуму. А не ведалі, што з агню едуць у полымя. А нашы таварышы-камуністы не спалі і паглядали на ўсход, адкуль мела прыйсці вызваленне, і дачакаліся. Саветы 17 верасня 1939 года аб'явілі вайну Польшчы, але гэта ў іх меркаванні была не вайна, толькі «вызваленне» Заходніх Беларусі і Украіны ад панскай Польшчы, дзе пан запрагаў нашага мужыка ў плуг і араў ім. І ў Саветах у гэту байку амаль усе верылі.

Што ж, надзьмутая ілжывая, фальшывая прапаганда можа многа зрабіць зла. А зло паходзіць толькі ад д'ябла і цёмных сіл.

Нашы таварышы паспяшылі шчыра прывітаць дарагіх гасцей, аж плакалі ад радасці. Яны ж нашы вызваліцелі, казалі, і збудавалі прыгожую прывітальную браму на вуліцы і ўпоперак вуліцы, на якой вісела прасціна з партрэтам бога зямлі таварыша Сталіна, вакол кветкі рознай масці, ну і, вядома, высакародныя словы лозунга, якія абвяшчалі людзям, што ў канцы будзем мець рай на зямлі пры саветах.

І чакалі. І чуюць нешта дзіўнае, нейкі лёскат гусеніц танкаў, аўтамашын, матацыклаў, і чужую гаворку. Уцешыліся, дык гэта вялікая савецкая сіла савецкіх войск, і салдаты-байцы навучыліся і чужой, відаць, нямецкай мове, якая скора прыдасца. Але зорак не відаць, адны свастыкі на мундзірах салдат. Тады таварышы зразумелі і чмыхнулі хто куды. А гэта быў атрад танкавай часці. І дзіўна, салдаты, а нават афіцэры аддавалі павагу і гонар тав. Сталіну і словам на палатне, хаця не ўмелі іх прачытаць. Вядома, было гэта вынікам пакта Рыбентроп-Молатаў, падпісанага 23 жніўня ў Маскве аб вечным супрацоўніцтве паміж дзвюма дыктатарскімі дзяржавамі.

Немцы ў нас начавалі. Калі крочылі вуліцай, дык навокал багата раскідваліся цукеркамі і шакаладам, а нашы людзі іх хапалі, як найлепшы ласунак, бо ў жыцці мала ім карысталіся, мо адзін раз у год. А ўначы на Турках успыхнуў пажар. Мо нейкі салдат з жартаў пачаў страляць угору ракетамі і адна з іх упала на страху будынка, які загарэўся, бо ўсё было пад саламянымі стрэхамі, і разбушаваўся люты пажар. Многа дабра пайшло з дымам, а панадворкі былі вузкія. На другі дзень немцы ад'ехалі, пакідаючы свой першы падарунак агню і то ў мірны час. Людзі па-рознаму гаварылі аб прычыне пажару і пацізу абвінавачваючы і гэтыя злардныя вароты. Цяжка адказаць на гэтае пытанне.

А што з брамай? Яна, падобна, дачакалася свайго «гаспадара» і таварышы ў канцы дачакаліся і першага савецкага вызваліцеля. А быў ім нейкі там салдацік зарослы ў брудны, парванай вопратцы на дохлым коніку. А гэта таксам свайго роду немалая тэхніка і пралетарскае выхаванне.

Ну і пайшло жыццё наперад, але па сабачай каляіне. У крамах не было чаго купіць, бо васточная дзіч усё разрабавала. Наехала іх процьма да нас. Нават з Масквы прыехала цётка Вольга (сястра маёй бабулькі Гапкі) са сваім сынам Жэнікам. Яна з бежанства не вярнулася, а засталася ў Маскве і не ведаю, ці яна была ў Сібіры, а найхутчэй што не. І пра яе я найменш што і ведаю, і таму не пісаў. А, праўду кажучы, я даклада і не ведаю, што гэта за цётка. І гэта цётка жыла ў нас, і гаварыла чыста па-руску. А яе сын Жэнік быў злодзей першай катэгорыі, нават у майго бацькі ўкраў брытву. Што ж, масквіч. Мой дзядзька Мяфодзій кінуўся ў вір новага «светлага» жыцця разам з рэштай таварышаў. Некаторыя нашы людзі і нават дзядзька Мішка павязалі павязкі на сваіх рукавах і сталі міліцыянерамі, але калі даведаліся, якія абавязкі маюць выконваць на сваёй службе — раскулачваць сваіх людзей і высылаць на белыя мядзведзі, дык амаль усе адракліся гэтага ганебнага пачыну. І наш слаўны Ванюшка таксама быў міліцыянерам і, як сам хваліўся, быў нават участковым, гэта амаль камандзір, хаця я мала веру ў гэта. Але ў саветах усё магчымае, бо нават таўкач і абух, абы меў гладкі язык — мог быць нават генералам. Аднойчы Ванюшка на сваім «службовым» коні ехаў разам з іншым васточнікам, яго калегам па службе. Не даехаўшы яшчэ да вёскі, недзе каля могілак, наш Ванюшка ўзяў у рукі бінокль і пытаецца свайго друга: «Что это за деревня?» Той адказвае: «Дубичи Церковные, твоё родное село». Ванюшка на гэта: «Я не знаю этой деревни». І цікава нават, ці адведаў сваю «родную деревню», сваіх бацькоў Саўку і маці Марысю і брата Васіля. І наш герой служыў міліцыянерам-участковым недзе каля Боцькаў і Браньска і там запазнаўся ў вёсцы Краснае Сяло з прыгожай і талковай дзяўчынай Ольгай Валосяк. Сам Ванюшка быў статным і нябрыдкім мужчынам-кавалерам. Пажаніліся крыху пазней (а я ўсё лічыў, што пры саветах), бо 15 мая ў 1942 годзе. Вянчаў іх бацюшка Іван Бандалоўскі.

І чуў я, і то даўно, што ён — Ванюшка — там, у сваёй тэрыторыі, дзе служыў як савецкі орган бяспекі, нікому там крыўды не ўчыніў, а нават у нечым дапамагаў людзям і таму мог здабыць такую файную дзяўчыну і ажаніцца з ёю. На жаль, ненадоўга гэта іх рамантычная ідылія цягнулася па прычыне дурнога п'янага языка Ванюшкі. Ён сваю Олю вельмі кахаў, а яна яго. А дурны язык найперш зашкодзіць самому герою, хто ім валодае бязмежна. Мой дзядзька Мяфодзій кароткa служыў саветам у роднай вёсцы, бо скора падаўся пад Беласток і там, не ведаю ў якіх, служыў органах. І ніхто яго больш не бачыў з маёй радні і тутэйшых сялян. Далейшы лёс яго пакрыты таямніцай і здагадкамі, пра што скажу пазней у наступных частках маёй пісаніны, якой хачу пралажыць праўдзівы змест і сэнс.

І пры савецкай лічыць акупацыі не ўсё было з ног да галавы дрэннае, бо найперш пашырылася наша школа, бо з чацвёртага дакацілася да пятага класаў навучання. І ў ёй ужо пачалі вучыць дзетак нашы людзі беларусы і ў першую чаргу настаўнікам стаў вядомы ўжо Трафім Панфілюк. І хіба не кінула працу ў школе і міжваенная настаўніца Шчэпанская і настаўнічала маладая расіянка Юлія. І найважнейшае: да ласкі вярнулася беларуская літаратурная мова і яе ў нашай школе пільна вучыў Трафім. Вядома, дамінавала руская мова, і пасля хіба яна выперла нашу родную. Мая сястра Надзя хадзіла ў гэту школу і па вайне даўжэйшы час на стале ляжала граматыка — правапіс толькі на рускай мове, а беларускіх падручнікаў не знайшоў (хаця яны маглі згарэць падчас вайны, таму не ручаюся).

Ад пачатку 1940 года ў школе і паўсюды распачалася дзікая ярая антырэлігійная агітацыя і прапаганда. Не ўсе дзеткі хадзілі ў школу па простай прычыне: не было ў што адзецца і абуцца і бяда намнога перавысіла нават санацыйны лад. Не было дзе купіць сшытак, аловак, пяро і іншыя школьныя прылады. Ужо не гаворачы пра новыя, пахучыя фарбай і драўнінай падручнікі...

(працяг будзе)

Мікалай ПАНФІЛЮК





**Яўгенія БУРА** нарадзілася у вёсцы Капітаншчына Нараўчанскай гміны. Хадзіла ў школу ў Старым Ляўкове. Выйшла замуж у Таніцу-Гурну Міхалоўскай гміны. Пасля смерці мужа жыве ў Аседлі Бандары Міхалоўскай гміны. Піша вершы на беларускай мове, на паўночна-заходнім (тутэйшым) дыялекце беларускай мовы, на польскай і расейскай мовах.

## Бярозка

Белая бярозка – тонкая галінка,
да цябе прытулюся толькі на хвілінку.
Перастань ты плакаць па долі маёй,
прытулі мяне да кары сваёй.

Раскажу табе пра сваю я долю,
як у маладых летах асталась удавою.
Дзяцей вывучыла — раз'ехаліс па свеце.
Цяжка працавала ў кожнай рабоце,
без здароўя адна асталася — як калок у плоце.

Пакінула хатку ў Таніцы-Горнай,
пачала жыць у «блёку» за горкай.
Мяне ты зразумееш, белая бярозка:
падае на землю з вачэй маіх слёзка.

## Гарабіна

Рабіна кудравая, белыя цветы,
чаму ж апусціла ты свае лісткі?
Можа ты не хочаш ужо кветкай быць?
Можа хочаш раннюю расу з ручая піць?

Ты мяне паслухай, падымісь хутчэй,
ты не плач па долі маей.
Белая рабіна – я цябе люблю,
неўзабаве я прыеду да цябе, прыйду.

Сумны лёс пракляты адганю хутчэй,
буду захапляцца кветкаю тваёй.
Букет беласнежны дахаты прынясу,
душою да сэрца яго прытулю.

## Каханай Маме

Чырвоныя кветкі Табе я нясу,
цалую маршчынкі Твае і прашу:
жыві наша Мама, жыві наўсегда
за гэта Богу буду ўдзячная я.

Сваімі рукамі Цябе абдыму,
да гарачага сэрца моцна прытулю.
Успомню дзяцінства прошлыя гады,
як была яшчэ маладая Ты.

Леты прайшлі, а Ты ля хаты дзвярэй
заўсёды сустракаеш ужо дарослых дзяцей.
Каханая Мама, да Цябе буду ездзіць
— пака буду жыць,
да сустрэчы з Табою мне сэрца дрыжыць.

## Восень

Павуцінка лета плыла над зямлёю,
восень набліжалась жоўтаю ліствою.
Сонца ўжо не грэе, стаіць над падворкам,
хуценька хаваецца ў лес за пагоркам.

Цёплую вопратку мы з шафы вымаем
і восені залатой усё-такі чакаем.
Лета адляцела на крылах птушыных,
панесла з сабою крык той жураўліны.

Многімі крыламі яно мне махала
і пяро ад птушкі пад ногі мае ўпала.
Дарагія птушкі, забярыце мяне з сабою,
бо цяжка мне жыці адной — удавою.

Дэбют

## XXIII Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы

**Рэдакцыя „Нівы" і Беларускі саюз у Польшчы аб'яўляюць XXIII Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы «ДЭБЮТ». У конкурсе будуць разглядацца працы грамадзян Польшчы на беларускай мове.**

### ПРЫНЦЫПЫ ЎДЗЕЛЬНІЦТВА

**1.** Конкурс праводзіцца ў дзвюх узроставых групах:

— I група: дзеці і моладзь пачатковых школ і ліцэяў,

— II група: астатнія ўдзельнікі (выключна аўтары, якія не з'яўляюцца членамі літаратурных творчых саюзаў).

**2.** У рамках груп конкурс праводзіцца ў дзвюх катэгорыях: паэзіі і прозы.

**3.** Конкурсныя працы, набраныя на камп'ютары або разборлівы рукапіс у двух экземплярах (паэтычныя творы — 3-5 вершаў, іншыя літаратурныя формы — аб'ёмам да 22 старонак стандартнага машынапісу) трэба падпісаць крыптанімам, пазначыць нумарам узроставай групы і паслаць на адрас: Redakcja „Niwy", ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok 2, skr. poczt. 84 з прыпіскай на канверце: XXI Ogólnopolski Konkurs Poezji i Prozy Białoruskiej.

**4.** Прозвішча, імя і дакладны адрас аўтара дасланых конкурсных прац трэба памясціць у асобным заклееным канверце, падпісаным звонку такім нумарам групы і крыптанімам, як і конкурсныя працы.

**5.** На конкурс трэба дасылаць творы, якія дагэтуль нідзе не друкаваліся і не ўзнагароджваліся на іншых конкурсах.

**6.** Арганізатары не вяртаюць дасланых твораў.

### ТЭРМІНЫ

**1.** Тэрмін дасылання да 20 лістапада 2020 г. (вырашае дата паштовага штампа).

**2.** Вынікі конкурсу будуць аб'яўлены ў лістападзе 2020 г.

**3.** Уручэнне ўзнагарод адбудзецца на адмысловай сустрэчы. Аб тэрміне мерапрыемства лаўрэаты і астатнія ўдзельнікі конкурсу будуць паінфармаваны і запрошаны прыняць у ім удзел.

Конкурс праводзіцца дзякуючы фінансавай падтрымцы Міністра ўнутраных спраў і адміністрацыі.

# Прыгожая і звер




Гэты здымак абудзіў мяне сярод глыбокай ночы і доўга не дазваляў заснуць. У галаве гучала пытанне пастаўленае пажылым інтэрнаўтам з Румыніі ***Liviu Podgarnei:***

*— Як яны могуць арыштоўваць такіх прыгожых жанчын?*

Пытанне, хоць само па сабе звычайнае, небяспечна паскорыла біццё сэрца. Якраз за ўсходняй мяжой, у час маральнага крызісу, людзі прыводзяць мудрыя афарызмы і прымаўкі. Прыгожасць іграе тут не абыякую ролю, успомніць хоць бы выснову Фёдара Дастаеўскага, які сказаў, што свет ацалее дзякуючы прыгожасці і людскай дабрыні....

Гэтая глыбокая мудрасць спрацоўвае на Зямлі, ды не толькі ў дачыненні да людзей. Кожная праява прыгожасці — ці гэта ў чалавечым, ці ў звярыным, ці раслінным свеце — наклікае чуллівасць, лагоднасць і любоў. Тым часам у Мінску глядзім на брутальныя сцэны гвалту ў дачыненні да прыгожых удзельніц мірных Жаночых маршаў. Асобені ў масках заломліваюць ім рукі, валакуць па голым бетоне, кідаюць у смярдзючыя аўтазакі і камеры ды застаўляюць падпісваць фабрыкаваныя правіны ды яшчэ патрабуюць плаціць за свае «паслугі». Ёсць сведчанні ахвяр брутальных гвалтаў, псіхічных катаванняў і збівання. Служкі рэжыму, — як кажуць відавочцы, — у сваёй разбэшчанасці пераходзяць няслаўнае гестапа.

Дэманстратыўная брутальнасць у адносінах да жанчын, асабліва да гэтых прыгожых, абурае ўвесь здаровы свет.

У эпоху віртуальных СМІ і сацыяльных сетак, амаль кожны акт злачынства зафіксаваны і асветлены. Інтэрнаўты ўжо пасля некалькіх хвілін гарачай рукой вымалёўваюць каментарыі:

— *Як ім не сорамна?* — абураецца інтэрнаўт ***Eucilides Antonio Lazzarotto*** з Бельгіі.

— *У іх няма мозгу, няма сэрца,* — адказвае яму ***Ella Dingleu***, *— няма ў іх пачуццяў, яны не адчуваюць. Калі ім загадаюць арыштоўваць, караць, яны караюць...*

Зарыентаваны ў беларускіх рэаліях румынец ***Liviu Podgarnei*** разумна тлумачыць зверства АМПа :

*— У праваой дзяржаве паліцыя павінна думаць і наносіць закон. Але Беларусь цяпер крымінальная дзяржава, у якой паводзяць сябе як гангстэры! Дык вось што ў іх цяпер на вуліцах: гангстэры, апранутыя як паліцэйскія. Гэта таксама паслядоўнасць гадоў і гадоў сацыяльнай нядбайнасці. Насельніцтва так доўга не павінна было адабраць гэтага рэжыму. Грамадства цяпер крыміналізаванае, яму патрэбна аперацыя на рак...*

Здымак з прыгожай жанчынай і сілавіком у масцы ***Яраслаў Андэрс*** падпісаў:

— *Прыгажосць і звер!* Ён таксама паклапаціўся за лёс дзяўчыны і прагнуў яе суцешыць, быццам прасіў прабачэння за правіны дзікуноў-службістаў...

У мяне не было пачуццяў для асобеняў у масках. Яны не падыходзілі пад цыборгаў і андроідаў, што машынальна выконваюць загады. Яны шчыравалі пры працы, быццам збіванне жанчын, асабліва гэтых прыгожых, іх узбуджала і распальвала. Іх праца ніколі раней не была такой салодкай! З падобнай роскашшу і гонарам яны ўспрымалі, калі вуліца крычала ім у твар: фашысты! Так, яны гэта любяць. Яны не думаюць пра паслядоўнасці, яны на вайне. Вайне, прыдуманай шызанутым дыктатарам, які засмакаваў ва ўладзе і жанчын лічыў «украшэннем міра».

Дастаеўскі ведаў, што на вайне з прыгожасцю брыды не перамагаюць.

Раніцай маё сэрца перастала ўжо калаціцца ад абурэння, бо гісторыя дзяўчыны са здымка пакацілася... у карысць для яе самой. Здымак прапанавалі на вокладку сусветнага журнала пра моду і селебрыці *Vogue*. Прапанова мела ногі і рукі. Вось, аказалася, што ахвярай хапуна стала мінская селебрыці Аляксандра, уласніца брэнда *Separatio* ад жаночай вопраткі.

**Ганна КАНДРАЦЮК**



## http://bzh-bzh.by

Цяперашняя беларуская ўлада марыць бачыць у нашым народзе толькі мужыкоў-лапатнікаў, якім чужыя не толькі сучасныя дэмакратычныя каштоўнасці, але і малазразумелымі падаюцца дасягненні навукова-тэхнічнага прагрэсу. Аднак жыццё паказвае, што такі падыход да ўласнага насельніцтва не проста памылковы, але і ганебны. Так, наўрад ці хто з лукашэнкаўскага асяроддзя мог меркаваць, што беларусы здольныя на моцны пратэст, які цягнецца ўжо амаль два месяцы. Тое ж самае можна сказаць і аб стаўленні беларусаў да новых форм і метадаў гаспадарання, якое яны дэманструюць, напрыклад, у пчалярстве — справе, якая патрабуе руплівасці, дбайнасці і акуратнасці. Каб у гэтым упэўніцца, варта зазірнуць на сайт, што месціцца ў інтэрнэце па адрасе **https://bzh-bzh.by** і належыць сацыятэхніку Міхаілу Волчаку.

Паводле размешчанай там інфармацыі, „Бж-бж пасека" — гэта смарт-пасека, дзе ўсё па навуцы і з прымяненнем новых тэхналогій. „Бж-бж пасека — гэта спалучэнне трох фактараў: разумных пчол, тэхналогіяў і пчаляра", — піша Міхаіл Волчак.

Далей ён адзначае: „На Бж-бж пасецы імкнуся выкарыстоўваць тэхналогіі максімальна прыбліжаныя да арганічнай сельскай гаспадаркі. Гэта значыць, не выкарыстоўваць хімікаты і паважаць працаўніц. Пчолы вас прымусяць ведаць цэлы шэраг навук. Разуменне прыроды пчол — гэта таксама разуменне прыроды наогул і эксперымент, у які я ўцягваю ў тым ліку свой набор лічбавых і гуманітарных тэхналогіяў", — інтрыгуючы распавядае сучасны беларускі пчаляр, які, акрамя пчол, займаецца грамадскай дзейнасцю, мае айцішную і юрыдычную адукацыі. „Умею праграмаваць, арганізоўваць, пісаць, валадаю англійскую мову. Люблю Беларусь. А яшчэ пчол...", — заяўляе Волчак.

Тыя пчолы, якія даюць мёд высокаадукаванаму пчаляру, пароды — бакфаст. Ён, як толькі можа, расхвальвае іх. „Пчолы — гэта магутныя апыляльнікі, якія садзейнічаюць устойліваму экалагічнаму асяродку і будучыні чалавецтва на гэтай планеце, робяць суіснаванне людзей і звярэй лепш, падтрымліваюць разнастайнасць. Таму пчолы — разумныя істоты, але зараз яны пад пагрозай знікнення. Я буду рабіць усё, каб пчолы множыліся і былі ў сімбіёзе з людзьмі і наадварот", — адзначае Міхаіл Волчак.

Як належыць сучаснаму чалавеку, які натхнёны сваёй справай, пчаляр вядзе ўласны відэаблог на YouTube. Праўда, пакуль папулярнасцю ён не карыстаецца. Там літаральна сем відэаматэрыялаў. Найбольшае зацікаўленне выклікаў толькі першы, які быў зняты год таму. У яго 44 прагляды. Астатнія відэа пакуль не паглядзелі нават па пяць разоў.

Аднак непапулярнасць відэаблога не засмучае ўладальніка высокатэхналагічнай пасекі. Ён не толькі запрашае на экскурсію па ёй, але і абвяшчае набор вучняў на стажыроўку на 2021 год. Умовай такога шалёнага натхнення ёсць стаўленне Волчака да пчалярства. Для яго „праца з пчоламі — гэта захапляльнае відовішча, пасля якога падаеш і засынаеш ад шчасця".

„Я хачу працягваць эксперыментаваць і збіраць супольнасць, таму мне патрэбна пакрыццё выдаткаў для сучаснага абсталявання і разыходнікаў, а таксама сацыятэхнічнай дзейнасці", — піша пчаляр, які гэтым самым абгрунтоўвае неабходнасць продажу сваіх тавараў — прадуктаў, атрыманых ад дзейнасці пчол, і гэта не толькі мёд.

**Аляксандр ЯКІМЮК**

### Дата з Календара



# 55 гадоў з дня нараджэння Змітра СІДАРОВІЧА

Беларускі бард, дудар Зміцер Сідаровіч нарадзіўся 2 кастрычніка 1965 г. у Мінску. Для многіх гэты таленавіты творца вядомы як лідар гурта „Камелот", аўтар і выканаўца песень, збіральнік фальклору. Дзед Змітра Сідаровіча — Мечыслаў Вікенцевіч — у 1938 г. пераехаў у Мінск з вёскі Скірмантава пад Койданавам (Дзяржынскі раён). Зміцер атрымаў прафесію інжынера-будаўніка, пазней стаў кандыдатам навук. А вось музычнай адукацыі не меў ніякай, што не перашкодзіла цягам жыцця асвоіць некалькі музычных інструментаў.

Песні пачаў ствараць з 1980 г. Па-беларуску пачаў пісаць у сярэдзіне 1980-х, што цікава — пасля паездкі на Падляшша. У 1986 г. студэнтам Сідаровіч патрапіў у Беласток на вытворчую практыку. Там сустрэўся з беларусамі Беласточчыны, якія „свядома размаўлялі на роднай мове і бачылі ў тым сваю місію на Зямлі", — як ён сам казаў. Гэта моцна паўплывала на светагляд творцы. У 1991 г. Сідаровіч стварыў легендарны для Беларусі гурт „Камелот". Ён спрычыніўся да вытокаў рыцарскага руху на Беларусі. Гурт „Камелот" запісаў альбом „У краіне талераў". Кампазіцыі „А дзе ж тыя ваяры?", „Краіна талераў", „Дуда, лютня ды бубен" сталі сапраўднымі музычнымі хітамі. На першых беларускіх рыцарскіх фэстах, якія ў Навагрудку ладзіў Ігар Міхна, гучалі песні „Камелота". Па просьбе кіраўніцы рыцарскага клуба Арыны Вележ Сідаровіч напісаў музыку для інсцэніроўкі каранацыі Міндоўга. Ствараў іншыя творы для аздаблення рыцарскіх турніраў. Сідаровіч стаў першым, хто распрацаваў гістарычную тэматыку ў музыцы. Праз пэўны час пачалі з'яўляцца і іншыя гурты такой скіраванасці — „СтараЛітва", праект „Легенды Вялікага Княства", „Стары Ольса" і іншыя. Дзякуючы гэтаму гістарычная песня стала папулярнай у Беларусі.

Сам Зміцер Сідаровіч казаў, што „Камелот" займаўся ў музыцы фактычна тым жа, што Уладзімір Караткевіч рабіў у літаратуры. Музыка гурта „Камелот" у свой час выкарыстоўвалася для афармлення спектакля „Заложніца кахання, або Люстэрка Бландоі" па п'есе Сяргея Кавалёва, якую паставіў Валерый Мазынскі ў Рэспубліканскім тэатры беларускай драматургіі. Тады аднаго з Радзівілаў іграў вядомы актор і тэлевядоўца Юры Жыгамонт.

Зміцер Сідаровіч выпусціў таксама кнігу вершаў „Тры жалуды". Аўтар-складальнік даведніка „Вялікія музыкі XX стагодзьдзя". Акрамя бардаўскай песні актыўна займаўся фальклорам. Музыка ўдзельнічаў у беларуска-літоўскай фальклорнай экспедыцыі, дзе сабраў шмат творчасці памежных тэрыторый. Адраджаў такі інструмент як дуда. У 2000 г. удзельнічаў у альбоме „Вір" гурту „Стары Ольса". У 2008 г. заснаваў капэлу „На таку", якая ладзіла вечарыны традыцыйнага танца, шмат часу аддаваў гэтай справе. Сідаровіч разам з сынам Тамашом, а таксама Таццянай Матафонавай і яе сынам Адасём запісалі „Дзіцячы альбом", першая частка якога складаецца цалкам з беларускага дзіцячага фальклору, а ў другую, апроч народных, уваходзяць і аўтарскія песні Сідаровіча — „Школьная нізка". На дысках змясцілі не толькі песні, але і тэксты, музыку для караоке, каб усё гэта музычныя кіраўнікі ў дзіцячых садках маглі спяваць разам са сваімі выхаванцамі. Праект стаў выдатным дапаможнікам для бацькоў, якія імкнуцца выхоўваць дзетак на традыцыйнай культуры.

Памёр Зміцер Сідаровіч у Мінску нечакана і заўчасна 17 траўня 2014 г., не дажыўшы да 50 гадоў. Яго знайшлі мёртвым у сваёй кватэры. Пахаваны творца на Заходніх могілках беларускай сталіцы.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**




## Вялікія карпы ловяць у нашых ставах

У ставах каля вёскі Бахуры Міхалоўскай гміны Беластоцкага павета рыбакі ловяць вялікія карпы, плоткі, лешчы, амуры і ліні. 27 жніўня гэтага года 8-кілаграмовага карпа злавіў вопытны вудзільшчык Канстанцін Целушэцкі з Новага Ляўкова суседняй Нараўчанскай гміны. Другі злоўлены карп быў крыху меншы. Спадар Канстанцін быў задаволены з улову. Карп смачная рыба.

**Тэкст і фота Янкі Целушэцкага**



## Вопытная гаспадыня і рукадзельніца

Лідзія Харкевіч з Лешукоў Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета ўмее ўсё зварыць і спячы, а таксама яна вопытная вышывальніца і любіць вязаць кручком. Яе запрашаюць у вясковыя святліцы і яна вучыць, як спячы торт, каравай, буславыя лапкі або іншыя хлебабулачныя вырабы. Паказвае ахвотным як здабыць кулінарныя веды, як рабіць кілбасы або вэкаваць мяса ў слоікі. Курсы гатавання і пячэння ладзілі, між іншым, у клубах у Міхнаўцы і Старым Ляўкове. Калі дзяўчына выходзіць замуж, спадарыню Лідзію просяць за каравайніцу.



Наведаў я Лідзію Харкевіч 10 верасня гэтага года ў Лешуках. Яна прыйшла сюды замуж з вёскі Васількава Гайнаўскай гміны. Працавалі з мужам на гаспадарцы, гадавалі дзяцей. Цяпер яна на пенсіі, муж памёр. Жыве ў прыгожай памаляванай драўлянай хаце, пры вуліцы. У вокнах прыгожыя фіранкі, якія выйшлі з-пад кручка гаспадыні. Кожная з іх мае іншы ўзор.

Лідзія Харкевіч (яна чытачка „Нівы") вышывае ручнікі і макаткі, робіць кручком вялікія і малыя сурвэты з прыгожымі ўзорамі. Зараз яе кухонныя макаткі на багатай выстаўцы макаткаў у мясцовай новапабудаванай святліцы.

**Тэкст і фота Янкі Целушэцкага**

## Металалом і пакрышкі ў лесе

У лес Плянта на калёніі Новага Ляўкова Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета прывозяць металалом і аўтамабільныя пакрышкі. Самавольная звалка металалому знаходзіцца ў яме на пачатку лесу побач гравійкі, якая бяжыць ад ваяводскай артэрыі № 687 па мяжы салэцтваў Новае Ляўкова і Плянта ды вядзе да сенажацяў за лесам. Вось такое забруджванне хваёвага лесу. Ён у сваёй большасці прыватны. У ім многа ягад. Грыбы таксама растуць. Зараз цвітуць верасы. У лесе шмат мурашыных капцоў.

**Тэкст і фота Янкі Целушэцкага**



## Адгаданка

**1.** Зеўсава гара, **2.** частка тулава ад шыі да рукі, **3.** жыхарка вулля, **4.** горад між Ваўкавыскам і Слонімам, **5.** абжора з казкі пра Чырвоную Шапачку, **6.** бакал, **7.** Марк, амерыканскі пісьменнік (1835-1910), **8.** сталіца Руанды, **9.** кантынент Марка Твена, **10.** дзядзькава жонка, **11.** магазін, лаўка.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — пагаворка.

(ш)



Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 36 нумара**

Каўчэг, тэніс, ярына, штатыў, тэолаг, сноп, каўпак, сякач, уезд, Нёман, суд, бабнік, сяўба, яда, праўда.

Рашэнне: **Яшчэ гэткі не спаткаўся, каб усім ён спадабаўся**.

## 04.10 — 10.10

**(22.03. — 20.04.)** Лішак энергіі прымусіць цябе да дзеянняў. Пераканаешся, што сапраўдных сяброў спазнаеш у бядзе. Твая штодзённасць будзе полем бою. На працы цікавыя прапановы; будзь мабільны і адданы. 6-12.10. трымай план б, в і г, і рабі ўсё аж да выніку. 7-13.10. спалучыш людзей у супольнай справе. Добры час пачаць здаравей жыць!

**(21.04. — 21.05.)** Здабудзеш сімпатыю атачэння, прыцягнеш да сябе вялікія грошы. Да праблем падыдзеш з усмешкай. Пасмакуеш жыцця. Будзь кампанейскі, атракцыйны, але не на ўсё хопіць часу. У пары мілая цяплынь. На працы можаш адчуць недахоп матывацыі. Абавязкаў больш (справішся). Быкі з III дэкады маюць шанцы на павышэнне. З 8.10. (да 12.10.) здабудзеш галоўны прыз у ігры за чыёсьці сэрца. Рэгенеруйся.

**(22.05. — 22.06.)** Нават найлепш падрыхтаваныя планы могуць не ўдацца. Слухай добрых парад, вучыся на чужых памылках. 6-8.10. не бяры нічога за пэўную праўду. Сувязі адны ўтрымаюцца, адны не. Не пагражаюць праблемы са здароўем, але будзь актыўным, больш шпацыруй. Удала можаш кінуць курэнне.

**(23.06. — 23.07.)** Хопіць табе адвагі, каб пазмагацца за сваё. Будзеш кіравацца больш розумам, чым сэрцам. Многа энергіі, асабліва да спрэчак. Цяжка дагаварыцца. У фірме будзе адбывацца многа — прапановы, праекты, курсы, кірмашы... Бяры быка за рогі, гульня вартая свечкі. 6-8.10. не ляпні чаго, чаго будзеш шкадаваць. З 7.10 (аж да 17.10.) адважся даверыць свайму сэрцу і інтуіцыі. Зважай на стрэс!

**(24.07. — 23.08.)** Хопіць аптымізму і добрых задум, перш за ўсё на тое, як дасягнуць мэт у белых пальчатках. Дасканалы настрой. Будзеш трымаць руку на пульсе ў прафесійных справах. Не пераказвай плётак і не жартуй з шэфа. З 9.10. (да 13.10.) удасца табе ўразіць высокапастаўленую асобу. Вельмі дбай аб свой пазваночнік.

**(24.08. — 23.09.)** Будзеш гожы, баявіты і кампанейскі. Аптымізм, меншы крытыцызм, мераеш вышэй чым дасюль. Добрыя задумы і нагоды для іх выкарыстання. Шчасце ў любові і фінансах. Самотныя Дзевы — 6-12.10 — шыкуецца вам незвычайная сустрэча і пачуццё. Цікавыя знаёмствы. Твае амбіцыі высокія, але на дарозе могуць паявіцца перашкоды, а канкурэнцыя не спіць. 6-8.10. з'явіцца мілы, лёгкі і прыемны занятак-падзаробак. Будзеш крыху стомлены і прыгнечаны. Жыццё цікавейшае дзякуючы новым сябрам.

**(24.09. — 23.10.)** Хопіць табе адвагі. Пераможаш кожную перашкоду і ўвядзеш у сваё жыццё многа карысных змен. Сонца пакажа табе адпаведны напрамак. Будзеш мець праверку на трываласць і імунітэт на стрэс. З 8.10. прыстасуешся да кожнай сітуацыі. Але з 9.10. можаш адчуць, што траціш грунт пад нагамі. Будзеш актыўны, але момантамі не будзе хапаць табе энергіі.

**(24.10. — 22.11.)** Нянудна. Знаёмства з цікавымі людзьмі. Ад шэфа вельмі інспіруючыя заданні. Пазбягай рызыкі і пільнуй здароўе. Сустракайся. Будзеш сардэчны і прыязны. Многа на тваіх плячах — трэба будзе рамантаваць, купляць, планаваць. На працы змабілізуйся, будзеш мець удзел у вельмі цікавым праекце. Асабліва Скарпіён з I дэкады можа выдумаць штосьці, з чаго будзе мець вялікія грошы; пільнуйся — вакол цябе не толькі файныя асобы. 6-8.10., калі шукаеш працу, спадзявайся запрашэння, размоў. Не мусіш зацiскаць пояс — асабліва ў дзвюх першых дэкадах шыкуецца неблагі заробак. З 6.10. (да 12.10) лепш не сапернічай. Не зලаві інфекцыі ў I і II дэкадах.

**(23.11. — 22.12.)** Будзеш у знакамітай кандыцыі і бясстрашны. Не трэць пільнасці — хтось хоча цябе выкарыстаць. З 7.10. (да 17.10.) узмоцніцца твая інтуіцыя і прыйдуць удалыя выпадкі лёсу. Але з 9.10. не парывайся на заданні, якія цябе перарастаюць; можаш адчуць сябе здраджаным. Зважай на адбор знаёмых. Нечаканыя выдаткі. Не трапляй у крайнасці.

**(23.12. — 20.01.)** Дагаворышся з шэфам і калегамі. Атрымаеш усё, аб што папросіш. Удалыя сустрэчы. Зоркі спрыяюць рашэнням і стварэнню планаў. Папулярнасць. З 8.10. зразумееш свае пачуцці. Шматлікія запрашэнні. Паправіш лады з шэфам, пільнуй доступу да дакументаў і камп'ютара. Дбай аб імунітэт. З 7.10 (да 17.10.) можа здзейсніцца твая мара.

**(21.01. — 19.02.)** Можа быць крыху нервова. Ператрываеш, але будзь цярплівым і пазбягай канфліктных сітуацый. З 7.10. можаш здабыць тое, чаго прагнуць іншыя. На дарозе да шчасця можа паявіцца ламачча, але слухай голасу розуму. У пары магчымая вялікая напруга 6-8.10., не перарабляй партнёра на свой капыл. Да 13.10. афармі ўсе важныя справы ва ўстановах. Кандыцыя і спраўнасць, горш з нервамі.

**(20.02. — 21.03.)** Праца прынясе табе вялікую прыемнасць, а задумы — прызнанне. У паветры чуць каханне. Узмоцніцца крэатыўнасць, лёгка ажыццявіш добрыя змены. Рыб з II дэкады 8-12.10. заспее любоў ад першага пагляду. З 9.10. прычэпіцца да цябе нейкі зануда. На працы як у сям'і. Дацэніць цябе шэф і канкурэнцыя. Пільнуйся ад ветру.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".

**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 693 70 00 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 000 egz.

# З-за Дуная

**Сёлетні фестываль пяючай душы «Гайнаўка-2020» адбыўся ў моцным цяні настаўшай эпідэміі. Амаль не прыехалі замежныя выканаўцы, асабліва ж тыя «з-за Буга», якія ў «здаровыя» гады поўнілі фестываль багаццем царкоўнага хараства мастацтва. З'явіліся толькі дзве «выканаўчыя адзінкі» з-за Дуная — грэчаская спявачка Нектарыя Каранці і балгарскі хор «Святы Йоан Кукузел Ангелагалосны»...**



■ Хор «Святы Йоан Кукузел Ангелагалосны»

Нектарыя Каранці гэта незвычайная жанчына. Падумаў бы хто, што гэта адно прафесіянальная салістка. Аднак па прафесіі яна юрыст, доктар юрыдычных навук па так розных спецыяльнасцях як крымінальнае і царкоўнае права. Аднак асаблівую цікавасць выклікае яе пазіцыя ў царкоўнай музыцы.

Ужо ва ўзросце дзевяці гадоў яна спявае ў афінскім царкоўным хоры. Яе захапляе старац Парфірый Каўсакавіліт, у 2013 годзе прылічаны Канстанцінопальскім патрыярхатам у лік святых; пазней яго ўславілі таксама Маскоўская і Румынская цэрквы. Падбадзёраная духоўнай дзейнасцю пазнейшага святога, яна ўглыбляецца ў царкоўныя спевы, у біблейскія сюжэты і ўжо ў чатырнаццацігадовым узросце запісвае альбом з візантыйскай музыкай. І надалей яна трымаецца менавіта візантыйскага пеўчага мастацтва, становячыся вядучай выканаўцай гэтай музыкі ў маштабе не толькі Еўропы, але і шырэй. Яна шчыльна супрацоўнічае са спевакамі і кампазітарамі, у іх ліку з вядучым грэчаскім дырыжорам Васілісам Цабрапуласам. Нектарыя Каранці спявае не толькі з грэчаскімі харамі, яна таксама выступае з будапешцкім хорам св. Яфрэма, сімфанічным аркестрам з македонскага Скоп'е, хорам «Яраслаўль» са швейцарскага Неўшатэля і з афінскім сімфанічным аркестрам пад кіраўніцтвам Васіліса Цабрапуласа. Запісала таксама музыку да сербскага фільма «Аздараўленне». Спявае не толькі на грэчаскай, але і на арабскай, расійскай, румынскай, італьянскай ды арамейскай — евангелічнай — мовах...



■ Нектарыя Каранці

У Беластоку Нектарыя Каранці мела выступіць з заснаваным ёю жаночым хорам «Псалтрыс», аднак усяму хору не пашанцавала прыехаць; прыехала толькі сама Нектарыя. Заспявала яна некалькі царкоўных гімнаў, прадбачаных у праграме хору. Мяне здзівіла падабенства мелодыкі гэтых гімнаў з грэчаскімі народнымі песнямі. Аднак, аказваецца, няма тут нічым дзівавацца. У сваіх інтэрв'ю яна падкрэслівае адзінства каранёў гэтых, здавалася б, розных пеўчых напрамкаў: «У грэчаскай музычнай культуры два макракосмасы: рэлігійная і традыцыйная музыка. Абедзве яны вырастаюць з антычнай грэчаскай музыкі — у іх шмат супольных пунктаў, але і шмат адрозненняў. А галоўнае, гэта прысвячэнне спеву: у першым выпадку пакланенне Богу, у другім — адлюстраваць штодзённасць і чалавечыя страсці. Грэчаскія народныя песні прысвечаны кожнаму моманту жыцця — ад нараджэння да смерці».

Сафійскі хор «Святы Йоан Кукузел Ангелагалосны» мае сваім патронам святога Івана Кукузела, які жыў у XIII-XIV стагоддзях. У той час не вызначалася нацыянальнасці па сённяшніх мерках. Таму яго лічаць сваім так балгары, як і македонцы. А нарадзіўся ён у цяперашнім Дурэсе, што ў Албаніі над Адрыятыкай, на акраіне тадышняй Візантыйскай імперыі; магчыма, што сваім лічаць яго і албанцы. Рана страціў бацьку, але звярнуў на сябе увагу выдатнымі пеўчымі здольнасцямі. У той час канстанцінопальскія правіцелі стараліся прыцягваць найбольш здольных дзяцей з усёй імперыі ў сталіцу, дзе атрымлівалі магчымасць шырокамаштабнай адукацыі. Паколькі Іаан выдатна спяваў, то ён быў накіраваны ў пеўчую школу. Яшчэ добра не асвоіў грэчаскай мовы, калі ягоныя таварышы па вучобе спыталі, што ён есць на снеданне. Той адказаў, што боб і зелле, але на змешанай грэчаскай і роднай мове «кукія і зелie», ад чаго і пайшла ягоная мянушка, якая і ўвекавечыла яго ў гісторыі музыкі. З ходам часу Іван вывучыў грэчаскую мову, а ягоны спеў звярнуў увагу імператара Андроніка II, які назначыў яго галоўным спеваком імператарскага хору і планаваў ажаніць яго з адпаведнай дзяўчынай. Але пакуль да гэтага. Івану не было па душы дворскае шумнае жыццё і ён уцёк са сталіцы і недзе ў глыбінцы стаў пасвіць авечак. Але ж прага спявання здрадзіла яго, ён трапіў у манастыр, аднак упрасіў ігумена, каб той выстараўся ў імператара дазвол на пазасталічнае жыццё. Іван трапляе на Афон, дзе займаецца творчай музычнай працай. Напісаў каля соткі твораў царкоўнай музыкі. І калі б не гэтыя творы, ягоная памяць бясследна прамінула б...

У 1970-х гадах я стаў знаходзіць на паліцах магазінаў з музыкай пласцінкі з сакральнымі творамі. Адной з першых была «Muzyka cerkiewna» з песнапеннямі спевакоў Варшаўскай камернай оперы пад кіраўніцтвам Юрыя Шурбака. Пазней была «Jutrznia» Кшыштафа Пэндэрэцкага. Паказаліся і запісы царкоўнай музыкі балгарскай фірмы «Балкантон». На іх вокладках была мова пра даўнюю царкоўную музыку эпохі Кірылы і Мяфодзія. Але пра Івана Кукузела быў маўчок. Вось пласцінка «Литургични песнопения на балканските славяни ВХА1448» і ўводны тэкст на вокладцы: «Балканскі паўвостраў з'яўляецца адным з найдаўнейшых цэнтраў старой хрысціянскай культуры. Хрысціянства было тут прысутнае яшчэ да Міланскага ўказа ад 313 года імператара Канстанціна Вялікага (274-337). І славяне шмат успрынялі ад Усходняй Рымскай Імперыі, пакуль балгарскі цар Барыс І (852-889) аб'явіў хрысціянства дзяржаўнай рэлігіяй у 865 годзе. Славянскія першасвяціцелі Кірыла (+869) і Мяфодзій (+885) і іх блізкія вучні ствараюць літаратуру — перакладную (найбольш з грэчаскай мовы) і арыгінальную на найстарэйшай славянскай мове — старабалгарскай, якая хутка далучаецца да класічных моў хрысціянства (грэчаская, лацінская, сірыйская, армянская, грузінская, копцкая і г.д.). У IX стагоддзі адбываецца рэвалюцыя з аграмаднымі паслядоўнасцямі. Першыя цэнтры славянскай культуры ў Балгарыі асабліва развіваюцца пасля таго, як цар Сімяон I Вялікі (893-927) вырашае ў 893 годзе балгарскую мову афіцыйнай богаслужэбнай, а грэчаская сцэзвае з набажэнстваў. У 988 годзе вялікі кіеўскі князь Уладзімір прымае праваслаўнае хрысціянства з Візантыі, пры актыўным удзеле Балгарыі. Сербія ў эпоху вялікага князя Стэфана Нямані (1159-1195) становіцца цэнтралізаванай хрысціянскай дзяржавай і на свой лад пераўвасабляецца ў магутны асяродак славянскай культуры і цывілізацыі. Старабалгарская мова, з ходам часу крыху мяняючыся, астаецца літургічнай мовай усіх праваслаўных славян. Яе старажытныя тэксты і дасюль захапляюць сваёй прыгажосцю і глыбокім паэтычным сэнсам...». Ёсць там згадка і пра старадаўні балгарскі распеў, але толькі згадка; і нічога больш...

На пласцінцы балгарскія і сербскія песнапенні. Паколькі побач сербскіх твораў стаяць сербскія прозвішчы, то гэта здаецца быць у парадку. Але каля «балгарскіх» прозвішчы Кампанейскага, Бартнянскага, Бахмецева... Ды гэта не ўся асаблівасць «балкантонскай» вокладкі, дарэчы не толькі гэтай пласцінкі. Пералік твораў не супадае з апісаннем побач — розныя аўтары, розныя песнапенні. Мабыць, цэнзары абодвух тэкстаў былі розныя, і па-рознаму скрэслівалі. Пласцінка запісана Мяшаным хорам балгарскага Камітэта тэле- і радыёвяшчання...

Магчыма, што ў той час, у 1970-я гады, царкоўная музыка ў Балгарыі прабівалася на белы свет спадцішка, таму і няма згадкі пра яе глыбокія карані, няма згадкі пра самага выдатнага кампазітара старaславянскай музыкі Івана Кукузела. Цяперашнія згадкі пра хор «Святы Йоан Кукузел Ангелагалосны» паведамляюць пра яго заснаванне ў 1966 годзе. Праўда, складана мне было дашукацца яго гісторыі ў інтэрнэце, але ўсё ж такі і яна, тая гісторыя хору, неардынарная. У 1979 годзе Людміла Жыўкава, дачка тадышняга балгарскага Першага, якая з даручэння партыі апекавалася балгарскай культурай, загадала па сваім капрызе рассячы хор. Адной часткай загадвала да 1986 года Таня Хрыстова, заснавальніца ансамбля. Другою часткай заняўся Дзімітр Дзімітраў, брат цяперашняга балгарскага патрыярха Неафіта. І як гэта бывае з высокімі, не толькі царкоўнымі, чынамі і іх блізкімі, не толькі ў Балгарыі, засвоіў ён сабе ўсё творчае дасье вакальнага ансамбля, сваё і не сваё...

Тэкст і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

ISSN 0546-1960 40